«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 12 (208), снежань 2023 года

# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 12 (208) (снежань)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus

## Змест





# Паэтычныя каляды



Фота catholic.by

Алесь ГАРУН

### У ноч на Новы год

*Сяджу я адзін у святліцы*
*З душою, агорнутай сумам.*
*Гадзіннік стары на паліцы*
*Ўтуруе самотлівым думам.*

*Усё прамінае у часе:*
*Няволя, самота, пакута, —*
*А йшчэ што у долі ў запасе?*
*«Дванаццаць гадзін і мінута».*

*Жыццё уцякае нязначна,*
*Па хвілечцы хвілька. Чаму ты*
*Не ловіш яго, неабачны?*
*«Дванаццаць гадзін, дзве мінуты».*

*Без следу, без знаку, цень ценню*
*Праз жыцце ідзеш у труну ты.*
*Якое ж найлепшае менне*
*Тваё, чалавеча? — «Мінуты!»*

***1916 г.***

Рыгор БАРАДУЛІН

***

*У ноч калядную збяры*
*Усіх здарожаных, халодных,*
*Усіх забытых і галодных,*
*І раздары свае дары.*

*Усё, што даў табе Гасподзь,*
*Каб ты апошнім*
*Мог дзяліцца.*
*Бо ўдачы гладкая цяліца*
*Пасецца,*
*Каб аддаць стакроць.*

*Прасі на кут сваіх Дзядоў*
*Абнашчыцца куццёю поснай,*
*Каб не шукаць гадзінай познай*
*У небе памяці слядоў.*

*Як вогнішча, разварушы*
*Тугу,*
*Што пазірае нема.*

*І ціха вока Бэтлеема*
*Узыдзе ў поцемках душы.*

Міхал АНЕМПАДЫСТАЎ

### Чаканне Калядаў

*Мы чакалі Калядаў з маленства*
*І ніяк не маглі дачакацца.*
*Тату трэба было на работу,*
*Маці трэба было на працу.*

*А Гагарын ляцеў на ракеце*
*Па-над нашым дваром ды садам.*
*Мы глядзелі услед са здзіўленьнем*
*І міжволі чакалі Калядаў.*

*Мы увосень падпальвалі лісце,*
*Мы узімку хварэлі на гляны,*
*І, прыклаўшы далоні да вуснаў,*
*У цямрэчы чакалі Калядаў...*

*Мы пісалі у школе дыктоўкі,*
*Нас вадзілі глядзець на парады.*
*Прафсаюз выдаваў карамелькі, —*
*Бралі мы — і чакалі Калядаў.*

*Нам даводзілі, хто мы і што мы,*
*Нас вучылі выконваць загады,*
*Нам казалі, ды мы не чулі:*
*Мы употай чакалі Калядаў!*

*Мы рабілі высновы хутка.*
*Мы павольна спявалі балады.*
*Мы назлосць валасы расцілі —*
*І упарта чакалі Калядаў.*

*Што з таго, што ўсё гэта знікла,*
*Быццам бурбалкі ад ліманаду?*
*Засталіся сям'я ды дзеткі,*
*Засталося чаканне Калядаў.*

*Засталіся сябры ды праца,*
*А адзін, дык «вабічэ» — у Канадзе...*
*Мы на святы дашлем паштоўку,*
*Будзем разам чакаць Калядаў.*

*Позна ўвечары посуд памыем*
*І пакінем, каб сохнуў на тацы.*
*Мы чакаем Калядаў з маленства —*
*І не можам ніяк дачакацца...*

Ірына ЖАРНАСЕК

### Раты*

*Кволы агеньчык свечкі*
*далоні трымаюць хлапечыя,*
*а побач — яшчэ і яшчэ...*

*Дзівоснай красы ліхтарыкі заззялі*
*зіхоткім святлом*
*і асвяцілі дом Божы*
*на досвітку гэткім марозным.*

*Раты...*

*«О Езус, на зямлю прыйдзі*
*і дай сваё збаўленне...».*

*Свечка ў руках хлапчаняці*
*просіць у Бога апекі:*
*для мамы — яна, бедачына,*
*не можа ніяк прачнуцца*
*гэтым марозным ранкам,*
*каб разам з маленькім сынам*
*ісці ратаваць свой Край;*
*для таты — ён без настрою:*
*палучка яшчэ далёка,*
*кішэні ж даўно пустыя*
*і пахмяліцца так хочацца*
*пасля ўчарашняе п'янкі.*

*Раты...*

*Нясе сваю свечку хлапчук —*
*не дыхае, каб не пагасла святло*
*трапяткое, дрыготкае —*
*яно так патрэбна сягоння,*
*каб выслухаў Пан Бог малітвы*
*яго і старэнькай бабулі,*
*што дзесьці на лаўцы мовіць*
*просьбы свае да Бога...*

*Раты...*

*Звоняць званы святыні.*
*Краіна застыла ў чаканні прыходу*
*Таго, Хто прыйсці павінен*
*і ашчасліўіць зямлю,*
*якая нават не ведае,*
*чаго не стае ёй для шчасця.*

*Раты...*

*Краю, мой Краю,*
*хто і калі цябе разгадае?*

*Звоняць званы.*

*Але ў ложках саладка спяць*
*сном глыбокім не дзеці —*
*іхнія таты і мамы.*
*Ім для таго, каб прачнуцца,*
*што яшчэ трэба, Божа?!*

*Ды ўсё ж не памерла надзея,*
*бо дзеці, іхнія дзеці,*
*гэтым марозным ранкам*
*са свечкамі і ліхтарамі,*
*з малітвай даверу на вуснах*
*ідуць ратаваць свой Край.*

*Раты...*

**Слова «раты» паходзіць ад першага слова перадкаляднага гімна «Rorate coeli».*
*Ратная Святая Імша здзяйсняецца ў гонар Божай Маці традыцыйна раніцай, да ўзыходу сонца ў перыяд Адвэнту (Каляднага паста). Прымаючы ўдзел у гэтай святой Імшы, мы разам з Дзевай Марыяй чакаем Нараджэння Хрыста.*

Іна СНАРСКАЯ

### Напярэдадні Калядаў

*На ростанях зімы*
*святлеюць вочы неба,*
*Штодзённую раку*
*я перахажу ўброд,*
*А за мяне бацькі*
*кладуць жывыя трэбы*
*На тым канцы дажджоў,*
*сумненняў і турбот.*

*Там моляцца за нас,*
*а мы за іх старэем,*
*А мы за іх ідзем*
*да берагоў душы,*
*І для сваіх дзяцей*
*мы сталі ўжо карэннем:*
*Трымаем на плячах*
*зялёны звон вяршынь.*

*І будзе так заўжды,*
*пакуль зямля зямлёю,*
*І Божы Сын пакуль*
*лякуе ўсіх нябог.*
*На ростанях зімы*
*пішу сваёй крывёю,*
*Што небыцця няма.*
*Ёсць вера і любоў.*

Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ

***

*Дзе пушчы і балоты,*
*Між елак і бяроз*
*На іртах па сумётах*
*Шыбуе Дзед Мароз.*

*Зіхцяцца, як карункі,*
*Сняжынкі ў барадзе,*
*А ў торбе — падарункі*
*Дзіцячай грамадзе.*

*І радасна на свеце,*
*І весела (да слёз!),*
*Калі — у цёплай хаце*
*Гасцюе Дзед Мароз.*

# Першая скрыпка



Марыя ВАЙЦЯШОНАК



Фота hatka.by

*Нас Восень ключом залатым замыкае...*

***Міхал АНЕМПАДЫСТАЎ***

Лецішча крыху наводдаль ад вёскі. Ноччу ад лесу, ад поля прыходзяць дзіцячыя страхі. Доўга спрабуеш заснуць, калі вецер разгойдвае дом, як калыску. Дождж ці снег аднастайным шэптам з пераходамі, як куплет за куплетам з дзіцячага вершыка.

Іншы раз забываешся перад навальніцай, бурай зачыніць вокны, дзверы, у пакоях вецер, фіранкі да столі. Нешта падобнае, калі прыяджае Віктора! Ты не паспяваеш узрадавацца, стоячы ля парога, а яна ўжо спяшаецца, маўляў, было якраз па дарозе. Цалую, зайчык, абдымаю! І так заўсёды. Нешта як студыйнае. І знікае...

Гляджу ўслед, як праз тоўшчу вады, вазоны на вакне, бы водарасці. Дом рабіўся яшчэ пусцейшым, чым дагэтуль. Выдавалася, госця знікла менавіта з таго месца, дзе стаяла, не падыходзячы да дзвярэй.

У вакне лес, ён адступае ўсё далей, невыразней. Дрэва не возьмеш за руку, не затрымаеш. Птушак пазнавала па галасах, а людзей? Да мяне зрэдку прыходзіць дзяўчо зрабіць манікюр ці педыкюр. Садзіцца ля ног на зэдлік, час ад часу шукае ў сваёй валізцы нешта патрэбнае, забываецца на мяне, не адчувае маёй прысутнасці, як ля каменя ці ля дрэва. Я бачу, у чым яна, колер адзення. А вось твар, выраз твару? Паміж намі немагчымы кантакт, я не пазнала б яе ў натоўпе. Чалавек незнаёмы мне яшчэ да таго, як я стала губляць зрок, цяпер зрабіўся амаль непазнавальны. Лёгка губляю сяброў, спадзеючыся на новыя, больш дасканалыя адносіны ў сяброўстве і любові.

Мой свет у змроку.

З чаго пачаць?

Я лёгка магу знайсці па паху сярод падобных шэрую булачку з пражанага на вялікім сонцы алтайскага зерня, крыху абсыпаную мукой, як напудраваную. Асаблівa пасля бульбы-гнілушкі.

Азіраючыся, бачу надзвы далёка. Чалавеку можна жыць у мінулым, толькі трэба ўспомніць, што ты любіў калісьці.

«Як яна там маецца?» — спытае хто-небудзь у вёсцы ў Ігнася, які бывае ў маім доме, каб дапамагчы мне з дробным рамонтам.

«Жыве ў сваім свеце!» — адкажа.

«То ў планшэце вачыма, то ў вакне!»

Па-вясковаму гэта значыла, маўляў, ступіўся розум, амаль сляпая. Добра, што ён не заўважыў мяне тады, калі я, згледзеўшы электрычку, стала махаць ёй рукою, як у дзяцінстве. Схамянуўшыся, засмяялася знарочыста сама з сябе, ці не заўважыў хто. Тады і зразумела, як я адлучана ад людзей, ад свету...

Гляджу ў вакно на дрэвы. Калі вецер ад Ліпаўкі, будзе холадна, калі ад Грэйдзева — на адлігу. Такі ў мяне самы пэўны прагноз і настрой!

Мой вольны час — як моцны вецер. Калі ён сціхае, я сама перабіраю вясновую лістоту, як асабістую пошту, расхінаю пупышкі. Божа, не дай быць адсутнай. На голым галлі правісаюся, па́даю, падымаюся, не пужаюся, што пераскочыла з серады на пятніцу. Нарэшце — дождж. Дождж на маю сівую галаву. На ссохлыя ад працы рукі, як абшмараванае цаўё рыдлёўкі. Вясной я не маю большай згоды з сабой, як той парою, калі ідзе першы дождж. Марудны, «як з лыжачкі», — да зямлі і да мяне. Замова ад сцюжы зімовай і ад людской.



Фота s-k.by

Іншы раз схамянешся, адчуўшы, што ў доме нехта ёсць. Гэта Ігнась, ён мае звычку заходзіць нячутна, быццам хоча кагосьці заспець. Абсыпаны рабаціннем, рудзізнай, быццам толькі што вылупіўся з ружовага *рапана*, расшчэпленага рапана на беразе мора, яшчэ вільготны, няскладны, ледзве ногі вырастаў, парцалянавая шалупайка на поўсці.

Ягоная праўда, ён спадзяецца заспець мяне, калі я буду размаўляць з шафай ці камодам.

Памятаю яго яшчэ з той пары, калі мне вочы служылі.

Мы гаворым пра тое-сёе, трэба, маўляў, пафарбаваць плот, найперш, ад дарогі, а яшчэ забілася сцёкавая труба на страсе. І трэба выклікаць сантэхніка, каб праверыў, бо ў катле іншы раз такі грукат, як у пральнай машыне.

Неўзабаве ён і прыехаў, капітан у адстаўцы, служыў на Чукотцы, мядзьведзяваты, галаву сагнуў у праёме дзвярэй, крок шырокі, быццам толькі што саскочыў з каня. Нешта поркаецца там, рамантуе, нечакана паварочваецца і пытаецца амаль па-свойску: «А што ў вас з рукой?». А ў мяне заверчаны палец апечаны. Я спрабую тлумачыць, губляюся ад увагі. Так нязвыкла, бы гэта ў чужым незнаёмым доме. Бо парушана зона адчужанасці.

Адыходзячы, ён зноў нахіляе галаву ў праёме, прысядае, бы спрабуе ўскочыць у сядло, выравацца з маёй верасовай пустэльні. І я ў нейкі момант разумею, што ўжо не паспею за свой астатак жыцця кагосьці сустрэць, пасябраваць, палюбіць. І ўва мне ніхто не паспее пазнаць свайго чалавека.

Які на дзіва *выбраны* час. Вось — Віктора, Ігнась, і болей ужо нікога? Вось і ўсё маё вылюддзе!

Рэчы гуляюць са мной у хованкі. Пасткі ў доме на кожным кроку, абы ты толькі забылася на тое, што ў цябе іншы рытм, іншая хуткасць. Гэта небяспечна!

Вось зайшла зноў Віктора, спяшаецца, у яе поўная торба падарункаў, на ўсю вёску. Пільна сочыць, хвалюецца, ці патрапіла, ці ўспадабала я. О, гэта мне даўно знаёма, Віктора святочны чалавек! Падарункі, знакі ўвагі, жэсты, усё ўпакавана ў бліскучую паперу. Будзённае патрабуе гераізму, ахвярнасці. Падысці да мяне бліжэй, распытаць небяспечна, бы я разводжу агонь у далонях, гуляю з агнём.

Без крыўды, без папрокаў — на адным слове — лёс!

Чаму ты так рана ўстаеш, табе ж не на работу, дзівіцца іншы сусед. А я пільнуюся не ўпусціць дзень. У мяне ўжо іншы час і тэмперамент жыцця. Я ўвайшла ў сваю зіму!

— Што гэта, музыка?

— Гэта бензапіла ў суседа, — смяецца Ігнась.

Сонца ранішняе, як у муцэ качанае, толькі што з печы, рукі можна апячы. У люстэрку бачу свой твар, бы ў бягучай вадзе. Спрабую паправіць валасы, вада іх разбурае. Не ўпільнуеш, калі пастарэеш. Свісток чайніка — амаль сяброўскае папярэджванне. З дня ў дзень быццам пераходжу з пакоя ў пакой, як па кладцы. Кожны яшчэ больш змрочны. Але вярнуцца назад ужо немагчыма. Затое, калі развесці агонь у каміне, можна доўга маўчаць сам-насам, як са старым сябрам.

Я спадзявалася намацаць пад нагой тую сцежку, на якую ступіла ў дзяцінстве, страціўшы бацькоў у ссылцы. Тады, памятаецца, я не адчувала адзіноты. Адзінота насцігае нас толькі ў старасці? Трэба было пільна намацаць тую сцежку, па якой ніхто цябе за руку не вёў, і супакоіцца, прыняць жыццё такім, якім яно ёсць.

Уключала тэлевізар, прыёмнік толькі дзеля таго, каб пачуць чалавека. У вакне ад лесу па полі нізка рухалася хмара, насупленая, пагрозлівая. Вочы ў вочы. Вусцішна рабілася. Божа, а што не так у маім доме?

Сталі знікаць рэчы, аддзенне, посуд. А гэта я сама няўцямна стала падпарадкоўвацца таму стану, калі стала «збірацца» перад сыходам у іншы свет. Адчыняла шафу, валізкі — раздавала, дарыла, разлучалася з любімымі рэчамі, быццам ведала свой час. І білет ужо быў выбраны, як у нейкую вандроўку.

Садзілася ля вакна, сумавала, як пастушка, упусціўшы на пашы каровы. Свет не цешыў, не чараваў болей, вось толькі калі ўспомніць тое, што любіла раней. Азірнуўшыся назад, бачыцца далёка.

Апошняя завіруха нечакана паднялася з-за вугла прывідам, які згубіў, не мог знайсці тут, у полі, свой спакой, сваё пахаванне.

Вялікі белы сабака з'явіўся пад вакном, як са снежнага прыпола завірухі. Пэўна, згубіўся ці ўцёк ад чалавека, не тутэйшы. Да ежы падыходзіў не адразу. А збольшага паеўшы, стаяў напружана, неяк нязграбна, няўпэўнена: ці не чужая гэта была міска, ці не крадзеная? Гатовы быў скочыць, уцячы. Зняверaны, як пакалечаны. Прыходзіў кожную раніцу, быццам пакліканы. Я не адважвалася прылашчыць.

Усю ноч да світання зноў раскашавала завіруха. Калыхалася на лістоўніцы як на гушкалках. То скочыць уніз, каб ізноў злавіць вецер, набраць сілы. І дзе той сабака начуе? А во, прыйшоў. Гэтым разам ён быў больш упэўнены і, раптам, падаў мне лапу. Сам. Я назвала яго Беламор. Было ў ім нешта такое бывалае, рызыкоўнае. Лапа цяжкая, здарожаная. Беламор зведаў волю, таму да рук ішоў па-ранейшаму асцярожна. Трэба было зачапіць на яго ашыйнік, пазначыць, што ён дамашні, бо ў вёску збіраліся прыехаць лавіць бадзялых сабак. Ігнась змог завалаць Беламора ў падворак, абхапіўшы яго за шыю. Сабака адчайна вырываўся. Тады Ігнась паваліў яго на зямлю. Яны качаліся, доўга дужаліся... і хутка барацьба перайшла ў гульню. Урэшце абое падняліся, хістаючыся, усталі на ногі, не парваўшы адзін аднаго, апазналіся сябрамі!

Ігнась хацеў вывесці сабаку за веснічкі. Але я запярэчыла, павяла Беламора ў дом. І раптам спынілася, прыслухаўшыся:

— Адкуль музыка?

— Гэта сініца, — адказаў Ігнась.

Першая скрыпка ў маім садзе пасля цяжкай зімы.

Дыхалася глыбей...

# Радзім ГАРЭЦКІ: вучоны і пісьменнік



Таццяна ЯКУБОЎСКАЯ

7 снежня 2023 года споўнілася 95 гадоў Радзіму Гаўрылавічу ГАРЭЦКАМУ — акадэміку, геолагу, грамадскаму дзеячу, пісьменніку, прадстаўніку знакамітага роду Гарэцкіх і Чалавеку, які сваёй шматграннай плённай дзейнасцю ўмацоўвае незалежную Беларусь.

Яго дзядзька — класік беларускай літаратуры Максім Іванавіч Гарэцкі. Яго бацька — Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі — адзін з заснавальнікаў Беларускай акадэміі навук, быў абраны акадэмікам якраз у снежні 1928 года, калі ў Мінску (на той час Менску) нарадзіўся яго другі сынок, названы ў гонар правадыра племені радзімічаў, якія жылі ў старажытнасці на ўсходзе нашай краіны. Радзім Гаўрылавіч — аднагодак цяперашняй Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

На сайце Акадэміі (http://nasb.gov.by/rus/members/academicians/ga) пра акадэміка Р. Г. Гарэцкага можна даведацца, што ён вучоны ў галіне геалогіі і геатэктонікі, з'яўляецца замежным членам Расійскай адэміі навук, доктарам геолага-мінералагічных навук, прафесарам, Заслужаным дзеячам навукі, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР і Дзяржаўнай прэміі БССР, а таксама Прэміі Расійскай акадэміі навук імя акадэміка М. С. Шацкага, Прэміі імя акадэміка В. А. Капцюга Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Сібірскага аддзялення Расійскай акадэміі навук, узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, медалямі ды іншымі адзнакамі.

Але афіцыйны сайт не дае даведкі аб усебаковай дзейнасці і здзяйсненнях нашага знакамітага сучасніка. І ў гэтым артыкуле (бо немагчыма) не ставіцца за мэту ахапіць усе дасягненні ў разнастайнай самаадданай працы Радзіма Гарэцкага і годна ацаніць іх вартасць. У навуковай, навукова-арганізацыйнай, грамадскай і асветніцкай працы Радзім Гаўрылавіч прадоўжыў справы бацькі, асноўныя напрамкі якіх дзіўна супадаюць: у абодвух любімая навука геалогія, абодва былі дырэктарамі навуковых інстытутаў, што стваралі падмурак трывалай эканомікі краіны, абодва працавалі ў вядучых вышэйшых навучальных установах, сталі выбітнымі спецыялістамі ў прафесійнай дзейнасці, абодва абаронцы незалежнасці і беларускасці роднай краіны.

Навуковыя дасягненні Р. Г. Гарэцкага ў геалогіі — тэктоніцы пліт і геадынаміцы платформаў, прагнозах, пошуках і адкрыцці радовішчаў карысных выкапняў — адлюстраваны ў сотнях навуковых публікацый, сярод іх фундаментальныя манаграфіі і тэктанічныя карты, матэрыялы міжнародных праектаў, даклады на сесіях Міжнароднага геалагічнага кангрэса, Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА і шматлікіх іншых форумах навукоўцаў свету. Радзім Гаўрылавіч — акадэмік-заснавальнік Міжнароднай акадэміі экалогіі і Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, член Амерыканскага геафізічнага саюза, доўгія гады ўзначальваў Беларускае геалагічнае таварыства ды іншыя навуковыя суполкі. У 1998 годзе Міжнародны біяграфічны цэнтр Кембрыджа ўключыў Р. Г. Гарэцкага ў спіс «Выдатныя людзі ХХ-га стагоддзя».

Навукова-арганізацыйная праца Радзіма Гаўрылавіча ў якасці дырэктара Інстытута геалогіі, геахіміі і геафізікі НАН Беларусі ў часы яго росквіту (1977—1993 гады), калі інстытут налічваў 300 супрацоўнікаў, стваральніка, прафесара і загадчыка кафедры дынамічнай геалогіі геаграфічнага факультэта БДУ (ён вярнуў у БДУ геалагічную спецыялізацыю), віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі, арганізатара і кіраўніка міжнародных навуковых праграм і нарадаў па тэктоніцы, сябра многіх рэдакцый навуковых часопісаў і шматтамовых энцыклапедычных выданняў і кніг, стваральніка і галоўнага рэдактара адзінага ў Беларусі навуковага геалагічнага часопіса «Літасфера» і шмат-шмат іншага шырока асвятляецца на інтэрнэт-рэсурсах і ў друку і таксама дастаткова вядома ў геалагічнай супольнасці.

Шырока вядома і няспынная грамадская і асветніцкая праца Радзіма Гарэцкага як сябра Рады і Прэзідэнта Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», сябра Рады многіх грамадскіх аб'яднанняў, старшыні Фонду братоў Гарэцкіх, натхняльніка і аднаго з арганізатараў штогадовых «Чытанняў братоў Гарэцкіх» і навуковых чытанняў, прысвечаных памяці Г. І. Гарэцкага, аўтара шматлікіх публіцыстычных артыкулаў у газетах і часопісах аб важных падзеях у гісторыі Беларусі і сучасным жыцці, мноства артыкулаў-успамінаў пра знакамітых дзеячаў навукі, культуры і літаратуры, пра сяброў і паплечнікаў да юбілейных дат... Гэтая дзейнасць Радзіма Гаўрылавіча выяўляе яго шырокую эрудыцыю, гарачую ўвагу да пытанняў нацыянальнага развіцця Бацькаўшчыны, глыбока чалавечае, інтэлігентскае стаўленне да людзей і праблем, якія хвалююць сучаснікаў.



Радзім Гарэцкі (злева) і Анатоль Вярцінскі ў перапынку ў час XVII з'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў, 4 сакавіка 2017 г.

Творчасць пісьменніка Радзіма Гарэцкага таксама мае шмат прыхільнікаў сярод навукоўцаў і літаратараў, у яе трывалыя карані: дзядзька Максім Іванавіч Гарэцкі — прызнаны класік беларускай літаратуры, а бабуля Еўфрасіння Міхайлаўна была бардам свайго часу, ад яе запісаны больш за 300 песень, частку якіх сама і стварыла. Песні ў выкананні Просі Паповай (дзявочае імя бабулі) перадавалі па радыё яшчэ ў канцы 1950-х гадоў. Пісьменнік Радзім Гарэцкі пераняў справу свайго знакамітага дзядзькі, дапісаўшы трагічныя старонкі лёсу братоў Гарэцкіх і паказаўшы значэнне і веліч гэтых Асобаў у беларускім і сусветным Космасе.

Тэма жыцця і творчасці Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх распрацавана Радзімам Гарэцкім на падставе ўспамінаў родных і сяброў, розных дакументаў і асабліва эпісталярнай спадчыны Гарэцкіх у кнігах «Браты Гарэцкія» (2008), «Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі і Украïна» (2009), «Гавриил Иванович Горецкий» (2012) (у суаўтарстве), «Лісты жыцця і кахання» (2013). У гэтых кнігах Радзім Гаўрылавіч прадоўжыў апісваць гісторыю роду Гарэцкіх, якую распачаў Максім Гарэцкі ў сваёй «Камароўскай хроніцы». Вельмі важным момантам у гэтых творах з'яўляецца пастаянная прысутнасць самога аўтара, яго ўласныя ўспаміны аб перажытым сям'ёй і ім самім. Па гэтых эпізодах узнаўляецца дзяцінства, сталенне і шлях у навуцы самога Радзіма Гаўрылавіча, яго стаўленне да бурлівых падзей нашага часу, яго чалавечыя, сыноўныя, нацыянальныя і грамадзянскія ідэялы.

Пра некаторыя сюжэты з кніг, што мяне моцна ўзрушылі, хочацца выказаць ўражанне неабыякавай чытачкі, якая многа гадоў працавала ў навуковым калектыве пад кіраўніцтвам Гаўрылы Іванавіча ў інстытуце, які доўгі час узначальваў Радзім Гаўрылавіч.

У кароткі момант даступнасці архіваў КДБ на пачатку 1990-х гадоў Радзім Гаўрылавіч здолеў адшукаць і прачытаць справы братоў Гарэцкіх і апублікаваць гаротную праўду пра іх лёс. Радзім Гаўрылавіч здзейсніў духоўны подзвіг, вывучаючы матэрыялы следства па прысудах бацьку і дзядзьку, іх паказанні, пачварныя абвінавачванні і прысуды, асэнсаваў гэтыя страшныя падзеі і напісаў аб іх, перш-наперш, у кнізе, загалоўкам якой абраў сутнасць жыццёвага крэда Максіма Гарэцкага: «Ахвярую сваім "Я"». Са шматлікімі вытрымкамі з ліставання пра жыццё і лёс Гарэцкіх апавядаецца ў пазнейшых кнігах пра іх, асабліва падрабязна ў кнізе «Браты Гарэцкія» (2008). Немагчыма чытаць без душэўных пакутаў гэтыя аповеды і лісты і ісці ўслед за аўтарам па крыжовай дарозе волатаў духу. А ісці павінны, бо толькі на гэтым шляху мы пазнаём Праўду.

Радзім Гаўрылавіч доўга вагаўся, ці варта публікаваць асабістыя лісты паміж мужам і жонкай, але сыноўні і грамадзянскі доўг перамаглі, і «Лісты жыцця і кахання» пабачылі свет. Ліставанне Гаўрылы Іванавіча і яго любай жонкі Ларысы Восіпаўны, якія большую частку свайго жыцця амаль да вяртання ў Беларусь у 1969 годзе пражылі ў разлуцы і неймаверна цяжкіх жыццёвых варунках *«дапамагло выжыць і быць шчаслівымі, стварыць і захаваць добрую сям'ю, узгадаваць двух сыноў, дасягнуць вышыняў у прафесійнай дзейнасці. [...] Чытаючы гэтыя лісты, можна яскрава адчуць жыццё не проста адной сям'і, але і многія моманты падзей усёй краіны і свету»* (Р. Г. Гарэцкі, «Лісты жыцця і кахання»).

Калі Гаўрылу Іванавіча арыштавалі, меншаму сыну было толькі паўтары гадочкі. Бацьку асудзілі да расстрэлу, які замянілі на 10 гадоў ссылкі ў Салаўкі. Як адукаваны спецыяліст ён быў накіраваны на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала ў яго самай паўночнай частцы на Кольскай паўвыспе, дзе ён стаў працаваць як геолаг. Пачалося пакутнае, амаль на 40 гадоў, вандроўнае жыццё сям'і Гарэцкіх. І хаця ў 1934-м сям'я аб'ядналася, але можна было жыць толькі ў месцах зняволення бацькі: у Коле, Туломе і Мядзвежай Гары на Кольскай паўвыспе і іншых далёкіх ад Беларусі краёх. Потым былі яшчэ арышты 1937-а і самы страшны — у 1938-м, пасля якіх Гаўрыла Іванавіч доўгі час працаваў інжынерам-геолагам на будоўлях вялікіх і малых гідраэлектрастанцый, каналаў і плацін у арганізацыях, падпарадкаваных НКУС. Ён не мог выбіраць месца жыхарства, быў у бясконцых геалагічных экспедыцыях і выправах, адарваны ад сям'і.

Заканчэнне на стар. 4 »

# Радзім ГАРЭЦКІ: вучоны і пісьменнік

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 3

Для Радзіма і яго брата Усяслава лісты бацькі ў дзяцінстве і, бадай, да канца студэнцкіх гадоў былі магутнай падтрымкай, праяўленнем бацькоўскай любові, клопату і дапамогі, выхоўвалі ў іх лепшыя чалавечыя якасці, загартоўвалі характар. У перапісцы з бацькам Радзім з 9-га класа пачаў пісаць па-беларуску, засвойваць родную мову, бо даводзілася жыць і вучыцца ў рускамоўным асяроддзі ды яшчэ ў 13-і розных школах. Здзіўляе загадкавая сувязь бацькі і сына праз почырк, бо рукапісныя старонкі Радзіма Гарэцкага цяжка адрозніць ад почырка Гаўрылы Іванавіча…

Характар і воля Радзіма Гарэцкага загартоўваліся ў гады ваеннага ліхалецця, калі ён з маці, яе бацькамі і яе братавай з восені 1941 года жылі ў эвакуацыі ў сяле Вавоўж ва Удмурціі. Як і многія людзі ў той час, яны цярпелі і голад, і холад, былі цяжкасці з набыццём вопраткі, што асабліва адчувалася ў марозныя зімы. Пачуццё пастаяннага голаду суправаджала Радзіма Гаўрылавіча з самага ранняга маленства і амаль усе студэнцкія гады, нягледзячы на намаганні маці і бацькі, які рэгулярна прысылаў частку свайго сціплага заробку для падтрымкі сям'і. Мясцовыя людзі ва Удмурціі таксама жылі цяжка, не толькі вайна таму была прычынай, а і вялікая колькасць уцекачоў, што пасяліліся тут, таму да прыезжых ставіліся часта недабразычліва і нават варожа. Вельмі моцнае і сумнае ўражанне застаецца ад апісання паездак узімку па калгасах раёна па пробы насення, якія павінна была аналізаваць на вартасць для пасеву Ларыса Восіпаўна як загадчыца кантрольна-насеннай станцыі. Трынаццацігадоваму сыну часта даводзілася ехаць з ёй за фурмана. *«Снегу ўзімку намятала вельмі многа […]. Санны шлях быў дужа вузкі, толькі для аднаго каня. Калі яны сустракаліся з мясцовым селянінам, ён ніколі не саступаў дарогі, хаця і бачыў, што насустрач едзе жанчына з хлопцам, таму ім, слабейшым, даводзілася з'язджаць убок. Конь правальваўся па пуза, хлопец — па грудзі, але цягнуў каня за аброць, а той не ішоў, потым неяк падскокваў, каб ногі троху выскачылі са снегу і змаглі зрабіць хоць крок… А маці і сыну здавалася, што ён вось-вось зламае нагу — і што тады рабіць і як тады аплачваць за чужога каня. Мужык азіраўся, з'едліва і самазадаволена ўсміхаўся. Доўга корпаючыся, з вялікай цяжкасцю выбіраліся на дарогу. Зноў раўнамерна бег конь і каціліся санкі, а яны маліліся, каб не сустрэўся хто-небудзь яшчэ. Узімку было вельмі многа ваўкоў, не менш галодных, чым людзі. Голад гнаў іх аж у сяло. Дні былі кароткія, і як Ларыса не старалася вярнуцца да цемнаты, гэта рэдка атрымлівалася. Было страшна, калі чулі прагнае выццё ваўкоў ці бачылі пранізлівы бляск іх вачэй у цемры позняга вечара. Сын мацней паганяў каня і адчуваў, як яго мама бліжэй падсоўваецца да яго»* («Браты Гарэцкія»).

Аднак былі іншыя, радасныя падзеі нават у той цяжкі час. У канцы ліпеня 1943 года маленькая сям'я з трох чалавек аб'ядналася ўпершыню за доўгі час. Да Гаўрылы Іванавіча, які жыў і працаваў у Чунжыне (пасёлак на процілеглым ад горада Чусавы беразе ўральскай ракі Чусавая) пераехалі з Вавожа спачатку Ларыса Восіпаўна, потым і Радзім. Старэйшы сын Усяслаў тады працаваў токарам у Маскве на аўтамабільным заводзе імя Сталіна (ЗІС). Малодшага сына паслалі на лесапавал, але Гаўрыла Іванавіч праз некаторы час змог уладкаваць яго рабочым на геалагічныя вышуках. Аднойчы яны *«…паехалі на створ Кумыш, адкуль да Чунжына спусціліся па рацэ Чусавой больш за 60 км на плытах. Уражанне было надзвычайнае — і ад нечаканых прыгод, якія здараліся, і ад сустрэч з апантанымі геолагамі ды рознымі цікавымі людзьмі, і ад хараства прыроды, прыгожых краявідаў: высачэзных сценак скал, аб якія білася нястомная бурная вада і аб якія незнарок стукаліся плыты (многа плытоў і барж разбівалася тут); магутных сосен і елак, якія караскаліся на самыя вяршыні гор; сіняга неба і ласкавых рэдкіх праменняў сонца, якое часта змянялася халоднай залеваю; смачных ягад і свежай юшкі… Мусіць, гэта падарожжа з бацькам стала для сына вырашальным у выбары будучай прафесіі»* («Браты Гарэцкія»).

Надзвычай моцнае і незабыўнае ўражанне пакідае таксама кніга Радзіма Гарэцкага «Академик Яншин — дорогой мой учитель и друг» (2005). Гэта дакументальная аповесць пра знакамітага сусветна вядомага вучонага — геолага і даследчыка прыроды Аляксандра Леанідавіча Яншына, якім ганарацца і геолагі Беларусі, бо ён — «ліцвін са Смаленску», пра цікавыя даследаванні на шляху сцвярджэння ў навуцы 1960-х гадоў новай глабальнай тэктонікі, і пра тое, як выпускнік геолага-разведачнага факультэта Маскоўскага нафтавага інстытута імя І. М. Губкіна Радзім Гарэцкі стаў знакамітым тэктаністам і лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР. Яшчэ ў гэтай кнізе з душэўнай узрушаннасцю і сардэчнай цеплынёй, з удзячнасцю і прыхаваным гонарам апісаны навуковыя і сяброўскія дачыненні Настаўніка і яго Вучня.

Вялікая роля А. Л. Яншына ў лёсе Радзіма Гарэцкага выявілася ў запрашэнні яго працаваць у Геалагічным інстытуце Акадэміі навук СССР (ГІНе). Пры заканчэнні Маскоўскага нафтавага інстытута Радзім Гарэцкі атрымаў накіраванне на працу ў Геалагічнае ўпраўленне БССР. Гэтаму былі рады і бацька і сын, бо Гаўрыла Іванавіч тады ужо рабіў намаганні вярнуцца на працу ў Беларусь, аднак гэтая яго мара здзейснілася значна пазней. А працаваць у адной з лепшых у свеце навуковых геалагічных устаноў, ды яшчэ ў А. Л. Яншына, было марай кожнага геолага. Таму і Радзім, параіўшыся з бацькам, даў згоду. З немалымі цяжкасцямі пры залагоджванні фармальнасцяў са зменай накіравання, Радзіма Гаўрылавіча прынялі на працу. Аднак гэта суправаджалася яго праверкай у пэўных органах як сына неаднойчы рэпрэсаванага «ворага народа». *«Хорошо, что как раз в это время мой отец за участие в строительстве Цимлянской ГЭС был награждён орденом Трудового Красного Знамени — видимо, это и решило мою судьбу»* («Академик Яншин…» (2005). Невядома, як бы склаўся лёс Радзіма Гаўрылавіча, каб ён у 1952 годзе прыехаў на працу ў Беларусь, дзе лёсы людзей яшчэ вызначаў звышпільны Лаўрэнці Цанава.

За час працы ў ГІНе (1952—1971) у Радзіма Гаўрылавіча ў поўнай меры выявіўся і развіўся талент вучонага і арганізатара. Яго надзвычайная працавітасць, звычка да напружанай працы, выдатныя веды па спецыяльнасці, адказнасць за даручаную справу, добрасумленнасць і добры характар — лагодны ў адносінах з людзьмі, але цвёрды ў прынцыповых момантах, спрыялі поспехам і аўтарытэту ў калектыве.

Знакавым у навуковай кар'еры Радзіма Гаўрылавіча стаў 1969 год, калі яму прысудзілі званне доктара геолага-мінералагічных навук за працу «Тектоника молодых платформ Евразии» і ён стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР у складзе калектыву на чале з А. Л. Яншыным за «Тектоническую карту Евразии» і манаграфію «Тектоника Евразии». У тым жа 1969-м пераехалі ў Мінск Гаўрыла Іванавіч з Ларысай Восіпаўнай. У 1954 годзе з Г. І. Гарэцкага была знята судзімасць, а ў 1958-м ён рэабілітаваны.

У званні акадэміка АН БССР Г. І. Гарэцкі быў адноўлены ў 1965 годзе па спецыяльнасці геалогія. На працу ў Беларусь Гаўрыла Іванавіч змог вярнуцца толькі праз 10 доўгіх гадоў пасля рэабілітацыі, пакутлівы шлях да роднай Беларусі завяршыўся, калі Гаўрылу Іванавічу было 69 гадоў. Галоўнай мэтай яго жыцця і працы ў Акадэміі навук было стварэнне навуковай школы даследчыкаў, вывучэнне геалогіі і выяўленне карысных выкапняў як неабходнай падставы гаспадарчага росквіту Бацькаўшчыны. Заставалася яшчэ гарачае жаданне, каб і яго сын, ужо знакаміты геолаг-тэктаніст, таксама працаваў разам з бацькам у Беларусі. І ў 1971 годзе прэзідэнт АН БССР М. А. Барысевіч запрашае Р. Г. Гарэцкага на працу ў Мінск, у Інстытут геахіміі і геафізікі АН БССР. У снежні гэтага ж года Радзім Гаўрылавіч вяртаецца на Радзіму і ўзначальвае створаны ў інстытуце аддзел агульнай і рэгіянальнай тэктонікі. У хуткім часе Р. Г. Гарэцкі становіцца прызнаным лідэрам тэктанічнай школы Беларусі і Прыбалтыкі, у 1977—1993 гадах ён — дырэктар інстытута, у 1992—1997-х — віцэ-прэзідэнт НАН Беларусі. Праца ў Беларусі адкрыла новыя перспектывы і дала магчымасць апантана служыць на карысць беларускай геалагічнай навукі, культуры і грамадства сваёй Бацькаўшчыны.

Я трымаю ў руках кнігу Радзіма Гарэцкага «Апантаны Бацькаўшчынай. Жыццёвы меланж-2», якая выдадзена ў Мінску ў 2018 годзе накладам 150 асобнікаў. Ёсць і першая кніга — «Жыццёвы меланж» 2013 года накладам аж 300 асобнікаў. Гэта кнігі новага жанру мастацкай літаратуры, створанага пісьменнікам Радзімам Гарэцкім. Вось як сам аўтар характэрызуе гэты жанр у «Прадмове» да першай кнігі. *«Жыццёвы меланж — так я называю жанр кароткіх замалёвак, мініяцюр, нярэдка блізкіх да вытрымак з дзённікавых запісаў, якія тычацца розных здарэнняў, праяў, эпізодаў штодзённага жыцця і выкліканых імі пачуццяў, думак. Сюды ж трапляюць успаміны ці роздумы пра розных сяброў, знаёмых, выдатных дзеячаў літаратуры, культуры, навукі, часта звязаныя з іх юбілейнымі датамі».* Аўтар тлумачыць, што геолагі ведаюць меланж (ад французскага «сумесь») як назву горнай пароды, якая ўтвараецца пры стрэсавых з'явах, напрыклад, ад насоўвання з вялікай сілай аднаго блока зямной кары на другі, у выніку ў разломныя зоны трапляюць адломкі разнастайных па рэчавым складзе і па колеры парод, якія і ўтвараюць прыгожыя стракатыя адклады пад назвай меланж. І далей — глыбокая філасофская выснова: *«Так у жыцці людзей уздзеянне чалавека на чалавека, адной супольнасці людзей на другую, краіны на краіну, прыродных феноменаў і самых разнастайных з'яў выклікаюць стрэсавыя сітуацыі як станоўчыя, так і адмоўныя, якія і застаюцца ў памяці чалавека. Так узнікае «жыццёвы меланж».* Як сцвярджае сам аўтар, у літаратуры жыццёвы меланж яго пачаўся з кнігі «Вечна жыве Беларусь» (2003), у якой сабраны артыкулы, выступленні, інтэрв'ю акадэміка Р. Г. Гарэцкага за пяць гадоў. *«У іх — роздум пра дзяржаўнасць, незалежнасць, дэмакратыю, нацыянальнае адраджэнне Беларусі, становішча беларускай мовы, развіццё культуры, навукі, адукацыі, успаміны і нарысы пра дзеячаў навукі, а таксама абразкі і кароткія мініяцюры розных гадоў».*

У 2020 годзе апублікаваны (электронная версія) вялікі твор Радзіма Гарэцкага ў дзвюх кнігах пад адной назвай «Пра сябе, пра жыццё і пра гісторыю…», таксама крытычным тыражом у 150 асобнікаў. У іх чатыры часткі — чатыры асноўныя кругабегі жыцця аўтара і краіны: «Сын "ворага народа"»; «У Акадэміі навук СССР (Масква) »; «У Акадэміі навук БССР (Мінск)»; «У Акадэміі навук Беларусі і Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі». Як піша Лідзія Савік у прадмове, *«Кніга — памяць і помнік, летапіс і гісторыя, успаміны і біяграфія: так можна вызначыць жанравую і тэматычную праблематыку, асноўны матыў і глыбінную сутнасць новага твора Радзіма Гарэцкага. Праз успаміны, роздум, біяграфію галоўнага героя, жыццё сям'і Гарэцкіх-Парфяновічаў, праз партрэты-характарыстыкі, лёсы блізкіх, знаёмых, родных, сяброў, калег паўстае гісторыя, раскрываецца эпоха, пазначаная трагічнымі катаклізмамі…».* Кніга «Пра сябе, пра жыццё і пра гісторыю…» аўтабіяграфічная і разам з тым яна — магутны заключны акорд тэмы «Камароўскай хронікі» — гераічнай сімфоніі жыцця знаных прадстаўнікоў роду Гарэцкіх з невялікай вёсачкі Меншая Багацькаўка колішняга мсціслаўскага Цемналесся.

Чытаць гэтыя кнігі — асалода і ўзрушанасць надзвычайна высокія, бо ў іх нанова перажываеш падзеі і з'явы, сведкамі і ўдзельнікамі якіх былі мы самі за апошнія 50 гадоў. Позірк на іх нашага знакамітага Суайчынніка, Вучонага, Інтэлігента, Чалавека высокай духоўнасці, адданага Бацькаўшчыне, — невычэрпная крыніца Натхнення, Веры і Надзеі на шчаслівую будучыню Беларусі.

Захопленасць навукай, служэнне любай Бацькаўшчыне, высокія чалавечыя якасці прыцягваюць да Радзіма Гаўрылавіча ўсіх, хто яго ведае. Яму ўласцівы шляхетная інтэлігентнасць, аптымізм і добразычлівасць, дэмакратызм, увага да калег і вучняў, здольнасць бачыць галоўнае ў складаных праблемах. Ён маральны аўтарытэт і жыццёвы арыенцір для ўсіх, каму дарагая Беларусь.

Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі адзін з тых, хто працягвае ствараць Беларусь, аб якой марыў яго бацька — аб заможнай, культурнай, адроджанай, вольны народ якой сацыяльна і нацыянальна свядомы, не саромецца беларусам звацца. *«І над усім — ува ўсім — перш за ўсё Вялікае Роднае Слова, Мова, крыніца жыцця, падстава неўмірučасці, душа і сэрца народа, яго Бог, яго жыццё, сам народ»* (з запісной кніжкі Г. Гарэцкага.

# Лацінкаю піша тутэйшае поле…

## Пяціверша



Альжбета КЕДА

*1*

*Лацінкаю піша тутэйшае поле.*
*Гатычныя знакі,*
*бы чорныя кроквы,*
*складаюць тутэйшую сагу.*
*Радочкі, калісьці праведзены роўна,*
*сягоння з прагалаў.*
*Бо тыя,*
*што знакамі сталі,*
*трываюць не ўсе,*
*не ўсе*
*ад марозу і сцюжаў*
*сябе захавалі.*
*Ды сыйдзе*
*калісьці зіма.*
*І новы араты*
*насеннем адборным*
*засее*
*тутэйшае поле.*

*2*

*Чорныя буслы*
*ў Беларусі*
*такое ж выключэнне,*
*як мы, беларусы.*
*Чаму яны чорныя?*
*Ім, відаць, усё адно,*
*што нехта думае пра іх,*
*чамусьці не белых.*
*Чаму нам не ўсё адно,*
*што думаюць пра нас?*
*Яны мудрэй,*
*бо яны*
*птахі нябесныя.*
*А мы ці даляцім калі*
*да нябёсаў?*
*Хоць і лячу ўсё жыццё*
*над Гароднял,*
*над Краем*
*над светам...*

*3*

*На лініі адной, прамой —*
*царква, радзінны дом*
*і месца вечнага спачыну.*
*Высокі чын служэння слову*
*завершаны паэтам.*
*Завершана жыццё*
*між Горнам і Гародняй.*
*Няхай жыццё зямное прамінула,*
*але высокае лунанне слова не міне.*
*Праўдзівым голасам*
*у хоры вольным,*
*асвечанае талентам,*
*жыве.*

*4*

*Зіма трывогі нашай*
*на вуліцы каштанаў раскашуе.*
*Каштанаў вобмаль: спілавалі.*
*І бунтаў, як калісьці, не было.*
*Каштанавыя бунты —*
*вялікая раскоша для тых, хто выжывае.*
*Ды і зіма зімой ліпее тут ледзь-ледзь,*
*у гэтым горадзе, дзе з двух бакоў мяжа,*
*закрытая амаль наглуха.*
*І толькі нашыя трывогі*
*ўзрастаюць і квітнеюць*
*букетам роспачы, адчаю і тугі.*
*Зіма трывогі нашай*
*раскашуе*
*на вуліцы каштанаў*
*круглы год.*

*5*

*Зноў вясна.*
*Зноў квітнее душа.*
*І ні болю,*
*ні суму,*
*ні сну,*
*што сарваны між ночы трывогай.*
*Зноў нас клічуць дарогі, прасторы,*
*азёры і рэкі,*
*дарагія мясціны*
*нашай любай Айчыны.*
*Зноў вясна.*
*І так хочацца жыць!*
*Каб на поўныя грудзі ўдыхнуць*
*вецер вольнага краю.*
*Не мінуць*
*ні чаромхі-язміну-канвалій —*
*водар Боскай красы.*
*І за сонцам ісці,*
*і знайсці*
*ў супакоі пяшчоту*
*у вачох найраднейшых...*
*Пахаваем жа смутак.*
*Бо так хочацца жыць,*
*ды не так,*
*як бяжыць і віецца,*
*сціскаючы сэрца,*
*чорным гадам туга...*
*О, як хочацца жыць!*
*Бо вясна...*
*Зноў вясна.*

# Бялютка-снежна-ранняя зіма



Ірына ГРУМАНДЗЬ

***

*Белы пялёстак віёлы.*
*Сонечны сквер. Вясна.*
*Поўныя прыгаршні промняў —*
*радуецца дачка.*

*Кветкамі расквітнеем,*
*вераю заіскрым,*
*поўнае сэрца надзеі*
*ў скверы на Страсным.*

***

*Вясновае спляценне*
*ўзораў*
*на галінках дрэў —*
*дыван зялёны*
*ў паветры*
*мастак павесіў,*
*намаляваўшы траўня*
*акварэль.*

***

*Горкая рэшта пасля размоў,*
*бы недапітая кава...*
*Звужана кола старых сяброў —*
*звыклая, часам, з'ява.*

### У Селішчы

*Сыплецца цэгла*
*з касцёла Святой Веранікі...*
*Сонцам асвечаны вежы —*
*Хрыстос на зямлі...*
*А ўначы мармуровы анёл*
*збірае цаглінкі,*
*плача дзяўчына,*
*зёлкі буяюць ля вечнай красы.*

***

*У Васілёвых малюнках*
*і вершах дзядзькі Рыгора —*
*Плат Веранікі як памяць*
*жывога Хрыста.*
*Доўгай дарогай дадому*
*спатольвае стома.*
*Сыплецца цэгла з касцёла*
*над зоркай Рыгора ды Васіля.*

### Зіма ў лістападзе

*Зіма — у лістападзе,*
*і холад нашых душаў,*
*як быццам хтось слязінкі*
*па снезе расцярушыў.*

*Бліскаюць яны ўночы,*
*а нам абы саграэцца —*
*і не заплакаць вочы,*
*і не зазіміць сэрца.*

*Зіма — у лістападзе,*
*бялютка-снежна-ранняя,*
*накінула на восень*
*сукенку развітальную.*

### Кроплі

*Восень збірае*
*кроплі дожджам,*
*каб асвяціць ваду.*
*Ёю ўмыю рукі й вочы*
*ды ў зіму пабягу.*
*Кропля жывая*
*стане ільдзінкай,*
*срэбнаю і маёй.*
*Хтосьці ў небе*
*назваў Ірынкай*
*і акрапіў вадой.*

***

*Ёсць невыносныя ночы,*
*калі баішся пакахаць...*
*Ёсць такія вочы:*
*у бездань іх —*
*не падаць, а ўзлятаць!..*

### Дзісенскае

*Там, дзе Дзісенка ўпадае ў Дзвіну, —*
*гулкай памяці звод.*
*У росная раніцы патану*
*у жніўеньскі хрэсны ход.*

*І Багародзіца павядзе*
*радасцю вечных сіл —*
*то Адзігітрыя па вадзе*
*плыла пад небасхіл.*

*Богапрысутнасць стрэчы стрэч,*
*Богаз'ўленне... Шлях...*
*Веры людской сакральны меч*
*смерці разбурыць страх.*

***

***Францу Сіўко***

*Пах тытуню*
*і кава, толькі кава...*
*Размовы ў кулуарах*
*аб «Маёй душы».*
*Прароцтвы Вашы*
*творчасць прадказалі*
*кароткай фразай:*
*«Здольная, пішы!».*

### Чайкі

*А чайкі праз хмары*
*лятуць на святло —*
*не ведаць прыродзе*
*марнасць кватэрнага свету.*
*Крычаць пра дажджы*
*й навальніцу*
*у вольнае неба —*
*азёрнага краю жытло.*
*У птушак таксама*
*ёсць прага да вечнасці,*
*і птушкі таксама*
*умеюць маліцца.*

*Знясілены крык —*
*нанізвае боль ды адчай*
*на струны душы*
*чалавечай у хмарах.*
*У нябёсным святле*
*патанае свяча*
*крыклівым агнём*
*расстрачаных мараў.*

*А чайкі і ноччу*
*лятуць на святло*
*да вечнага люстра спакою...*
*Пранізлівы крык —*
*то крык пра жыццё*
*людскога кватэрнага дому.*

### Караценькае

*Доўгі час знаходзячыся ў свеце няпраўды, людзі пачынаюць свята верыць у яе.*

***

*Любоў — рэдкая прыгажосць сучаснага свету.*

***

*Не думайце пра людзей добра. Думайце пра людзей як пра людзей...*

# Ад «Fabergé»



Віктар ВАРАНЕЦ

**I**

Ледзьве першыя промні сонца загулялі па дахах старажытнага Мінска, брыгада Валодзі Ташкевіча ўжо выгружалася з невялічкага «пазіка» на вуліцы Аранскай. Заказчык Іван Іванавіч, хударлявы, нешматслоўны мужчына ў добрым чорным паліто і капелюшы, загадаў быць на месцы а 5-ай гадзіне раніцы. А неўзабаве падкаціў і сам на чорным БМВ. Коратка прывітаўшыся, Іван Іванавіч падвёў Ташкевіча да драўлянага двухпавярховага будынка.

— Вось гэты дом я днямі купіў, — сказаў заказчык. — І неўзабаве тут будзе... зрэшты, якая табе розніца, што тут будзе. Твая задача, Валодзя, за сёння разабраць гэты дом да фундамента, смецце згрузіць і вывезці. Увечары я павінен убачыць роўную пляцоўку. Плачў двайны аклад, а табе, як брыгадзіру, прэміяльны бонус.

Мужчына выцягнуў з партманэ пачак даляраў, адлічыў і працягнуў брыгадзіру. І папярэдзіў:

— Калі не паспееце, уся ваша праца будзе лічыцца дабрачынным суботнікам. Бонусы вернеш у трайным памеры. Усё зразумеў?

Той толькі пацiснуў плячыма. А што тут не зразумець? Адно слова, гаспадар жыцця... Толькі бандыты цяпер і жывуць добра. Яны ж і законы свае ўводзяць.

Іван Іванавіч моўчкі развярнуўся і праз хвіліну з'ехаў. Брыгада напружана пазірала на Уладзіміра.

— Ну што, хлопцы, трэба за сёння разабраць хату і вывезці смецце. Абяцалі па трыццаць даляраў кожнаму.

— Ого! — ажывіліся хлопцы.

— А калі не паспеем, дуліну з макам! — астудзіў іх брыгадзір.

— Дык чаго стаім, нaперад, — зашумела брыгада. Усе разабралі інструмент, Ташкевіч вызначыў кожнаму месца працы, а сам, узяўшы ломік, пайшоў выдзіраць вокны (цесць прасіў знайсці якое шкло на лецішча). Валодзя акуратна даставаў шыбы, перакладаў іх паперай і выносіў пад яблыньку. Затым выцягваў падаконнікі, паколькі яны былі шырокія, трывалыя, маглі яшчэ дзе і спатрэбіцца. Раптам, здымаючы чарговы падаконнік, хлопец убачыў у выемцы дзве каробачкі і невялічкі скрутак. Пад крышкамі на аксамітных падушачках ляжалі залатыя завушніцы з каменьчыкамі і два пярсцёнкі з дыяментамі. На ўнутранай частцы пярсцёнкаў стаяў надпіс Fabergé. У скрутку ляжаў пашпарт Расійскай імперыі на імя Вілі Генрыхавіча Штраўбаха і пасведчанне, датаванае 1916 годам, — што Вілі Генрыхавіч Штраўбах з'яўляецца галоўным бухгалтарам Мінскага аддзялення расійскай кампаніі «Фабержэ».

**II**

Студзень 1918 года замест традыцыйных святочных забаў прынёс у Петраград чырвоны тэрор, голад, разгул бандытызму. Карл Фабержэ добра разумеў, што хутка прыйдуць і па яго. Вядомы ювелір, гаспадар сеткі магазінаў, пастаўшчык упрыгожванняў для імператарскай сям'і, ён не мог не прыцягнуць увагі новай улады. Праўда, Карл мудра паступіў, аддаўшы гэты дом на Вялікай Марской вуліцы швейцарскай місіі і такім чынам атрымаў дыпламатычную недатыкальнасць. Але хіба гэта надоўга? І вось зараз ён сабраў у гасцінай ужо амаль не свайго дома найбольш давераных асоб: даўнішняга сябра па вучобе ў Дрэзданскім ліцэі пасла Швейцарыі Ад'е, галоўнага бухгалтара Мінскага аддзялення кампаніі «Фабержэ» Штраўбаха, прысяжнага паверанага Авяркіева, галоўнага бухгалтара кампаніі «Фабержэ» Баўэра.

— Панове, — пачаў размову Карл, склаўшы перад сабой далоні, — вы разумееце, што ў цяперашніх умовах наша фірма працаваць не можа. Мы вымушаны пакінуць краіну, каб адрадзіць нашу справу за межамі Расіі. Так, пан Вільгельм Ад'е высакародна прыкрывае нас пакуль дыпламатычным статусам. Але бальшавікі ўсё часцей плююць на ўсе міжнародныя нормы. І я ўпэўнены, што неўзабаве прыйдуць сюды з вобшукам. Як нам захаваць каштоўнасці нашы і нашых кліентаў?

— Магчыма, іх трэба перахаваць у розных месцах? — падаў голас Павел Міхайлавіч Авяркіеў.

— Іменна ў розных месцах! — падтрымаў паверанага Фабержэ. — І для гэтага мне спатрэбіцца, панове, ваша дапамога.

Ён падняўся з крэсла і падышоў да вялікага куфара, што стаяў каля сцяны. Падняў вечка і дастаў з куфара тры саквояжы і чорную скрыню з ручкай зверху.

— Тут знаходзяцца найдасканалейшыя ўзоры ювелірнай справы свету. Нават славутая Мацільда Кшэсінская перадала нам на захаванне свае каштоўнасці. Усяго 562 прадметы. Іх пералік заняў у мяне 20 старонак тэксту. Вам, панове, я давяраю і абяцаю, што ваша самаахвярнасць будзе шчодра аплочана, калі мы сустрэнемся ў Германіі. На галоўным паштамце Вісбадэна для кожнага з вас будзе пакінута картка з маім адрасам. Вам дастаткова сказаць: «Мяне чакае паштоўка ад Карла». Шаноўны пан Ад'е бярэцца перавезці два саквояжы ў пасольства Нарвегіі на Мойку, 42. Адтуль дыпламатычнай поштай уласнаручна даставіць іх у Германію. Пан Баўэр з пакетам каштоўнасцяў едзе цягнікам у Рыгу. Пан Штаўбах будзе дабірацца праз Польшу, а пан Аверкіеў — праз Фінляндыю. Вось, панове, грошы на дарожныя расходы. Добра падумайце, дзе будзеце хаваць гэты груз.

— А як жа Вы, паважаны Карл Густавіч? — запытаў Штраўбах.

— А я пад выглядам кур'ера народнага камісарыята па знешніх справах РСФСР заўтра ж адпраўляюся праз Рыгу ў Германію, ну і прыхаплю з сабой некаторыя каштоўныя рэчы. І няхай пра нас, панове, паклапоціцца Бог!

Невядома, які бог дапамог галоўнаму бухгалтару Мінскага аддзялення кампаніі «Фабержэ», але Вілі Генрыхавіч Штраўбах дабраўся да роднага Мінска даволі хутка і без асаблівых праблем. За пару царскіх чырвонцаў праваднік пасяліў у купэ Вілі Генрыхавіча аднаго, дзверы зачыніў на ключ, а на ручцы павесіў шыльду «Не ўваходзіць! Дэзінфекцыя!». І ўвесь вагон бокам стаў абходзіць пракажонае купэ. Дабраўшыся да свайго асабняка, Штраўбах, не распранаючыся, стомлена апусціўся ў крэсла. Сям'я даўно з'ехала ў Германію, прыслуга разбеглася, і таму дом непрыемна цісну ў цішынёй. Трэба было добра падумаць, што рабіць далей. Ехаць у Вісбадэн цяпер небяспечна: абабраць, а то і забіць маглі і бальшавікі, што кантралявалі горад, і бандыты, што спынялі цягнікі за горадам, і немцы на мяжы, паколькі вядома, што за законы на вайне. Лепш за ўсё, пэўна, перачакаць які час дома. Новая ўлада доўга не пратрымаецца, тыдзень-другі — і зоймуць Менск або немцы, або палякі, або якія царскі генерал. Але парадак абавязкова вернецца. Вось тады ён і пусціць каштоўнасці Фабержэ ў справу. Гэта ж такія грошы! Праўда, і гаспадар можа вярнуцца па сваю маёмасць, але чаму не сказаць, што ўсё канфіскавалі тыя ж бальшавікі ці бандыты? Хай праверыць...



Для пачатку Штраўбах вырашыў прыхаваць каштоўнасці ў розных месцах на выпадак раптоўнага вобшуку. Штосьці размясціў у схованцы ў піўніцы, пару схронаў меў пад падаконнікамі і масніцамі. Схаваў у піўніцы і рэвальвер, добра змазаўшы яго алеем, бо калі зброю знойдуць бальшавікі, адразу ж расстраляюць. Задаволены зробленым, Вілі Генрыхавіч пайшоў спаць.

**III**

Зруйнаваўшы дом і атрымаўшы абяцаныя грошы, брыгада вырашыла адзначыць такую ўдалую падзею ў бліжэйшым бары. Валодзя Ташкевіч адмовіўся, спаслаўшыся на хваробу жонкі. Прычына была больш чым уважлівая, і брыгада, хаця і са шкадаваннем, але адпусціла свайго начальніка.

На працягу ўсяго працоўнага дня Валодзя разважаў, што рабіць са знойдзеным багаццем. Зразумела, што нікому нічога ён не скажа. Завушніцы падорыць жонцы, каханай Маргарыце, бо і так даўно нічога ёй не купляў, — усё грошай не было. Адзін пярсцёнак схавае на чорны дзень, мала ці што... А вось другі занясе ў скупку і здасць. Але колькі прасіць за яго? А колькі ўвогуле каштуе залаты пярсцёнак з каменьчыкам? Хлопец вырашыў зазірнуць у ювелірны магазін, які сустрэўся па дарозе і, дзякуй богу, яшчэ працаваў. У вялікім светлым памяшканні апроч прадаўцоў нікога не было. Ды і тыя, агледзеўшы наведвальніка, тут жа адвярнуліся і працягнулі свае размовы. Валодзя падышоў да прылаўка, знайшоў латок з пярсцёнкамі і пацікавіўся коштам. А нічога сабе! Дзевяцьсот рублёў. Гэта амаль трыццаць даляраў па камерцыйным курсе (па афіцыйным ты ж нідзе не купіш!). Ташкевіч зайшоў у невялічкае і досыць цёмнае памяшканне са сціплай шыльдай «Скупка». За маленькім акенцам сядзеў сівы дзед з акулярам у воку і нешта разглядаў. Бляхнуў дзвярны званочак — стары падняў галаву, перасунуў акуляр на лоб і ветліва запытаўся:

— Добры дзень, малады чалавек! З чым завіталі да нас?

Валодзя адчуў нейкае хваляванне.

— Ды вось, прынёс сямейны пярсцёнак. Ад бабулі застаўся. Возьмеце?

— Канешне вазьму, — тут жа пагадзіўся дзед. — Але спачатку хацелася б паглядзець на яго.

Ташкевіч раскрыў потную далонь і паклаў на прылавак пярсцёнак. Ювелір вярнуў акуляр на вока, доўга і ўважліва аглядаў тавар і нават чымсьці капнуў на каменьчык.

— Вы толькі не папсуйце, — занепакоіўся хлопец. — Гэта сапраўднае золата, і каменьчык не танны.

— Не хвалюйцеся, малады чалавек, — супакоіў яго стары, — я не першы год у гэтай справе. І колькі вы б хацелі за свой тавар?

Уладзімір адчуў, як пот струменьчыкам пабег па спіне. Але сабраўся з духам і строга сказаў:

— Тысяча сто рублёў! Гэта ж антыкварыят!

Стары задуменна пакруціў пярсцёнак у пальцах і нарэшце прамовіў:

— Тысяча рублёў мая канчатковая цана. І толькі з павагі да Вас, малады чалавек.

Ташкевіч адчуў, як крылы шчасця вырастаюць за плячыма.

— Добра, але грошы адразу!

— Канешне, — пагадзіўся ювелір, — зараз прынясу. А Вы пакуль падрыхтуйце пашпарт. Трэба ж аформіць квітанцыю.

Ён вярнуўся хвіліны праз тры, несучы пачак купюр. Узяўшы пашпарт, перапісаў чамусьці і адрас прадаўца. «Пэўна, такі парадак», — падумалася хлопцу. А стары тым часам выклаў грошы перад Ташкевічам, вярнуў пашпарт і між іншым запытаўся:

— Можа, яшчэ што засталося ад бабулі?

— Можа, і засталося, — радасна адказаў Валодзя. — Пагляджу дома...

— Заўсёды буду рады Вас бачыць, Уладзімір Іванавіч. І нават крыху падыму для Вас цану як для сталага кліента.

Валодзя падзякаваў і, шчаслівы, паляцеў дахаты ўзрадаваць жонку неверагодным багаццем.

Ювелір яшчэ з хвіліну разглядаў пярсцёнак, затым, цяжка ўздыхнуўшы, паклаў яго на стол, падцягнуў да сябе тэлефон і пачаў накручваць дыск. Пасля некалькіх гудкоў у трубцы пачуўся незадаволены мужчынскі голас:

— Слухаю!

— Іван Іванавіч, гэта Вас непакоіць Кац Саламон Маісеевіч. Вы прасілі паведаміць, калі будзе нешта цікавае. Маю неверагодны прыгажосці пярсцёнак ад самога Фабержэ.

— Еду...

Кац акуратна паклаў трубку на апарат, падышоў да дзвярэй і павесіў шыльдачку «Зачынена». А сам сеў каля акна і прыплюшчыў вочы. Хвілін праз дваццаць да скупкі пад'ехаў чорны БМВ, з якога выйшаў мужчына ў доўгім чорным паліто. Кац расплюшчыў вочы, падняўся з крэсла і, па-старэчы шоргаючы нагамі, накіраваўся да дзвярэй сустрэць госця. Той увайшоў у памяшканне і гучна прывітаўся:

— Вечар добры, Саламон Маісеевіч! Толькі дзеля цябе кінуў усе справы і прыехаў. Ну, паказвай, што прыдбаў.

— Добры вечар, шаноўны Іван Іванавіч, — адказаў Кац і падвёў госця да стала, на якім ляжаў пярсцёнак. Іван Іванавіч уважліва разгледзеў каштоўнасць з усіх бакоў, прымерыў на палец і паклаў на месца.

— Што, на самой справе Фабержэ?

— Так, Іван Іванавіч, рэч зроблена на пачатку стагоддзя ювелірным домам Фабержэ. Паглядзіце, якая тонкая праца, а якой чыстай вады камень. Такога ўжо не робяць. Цаны яму няма.

Мужчына ўсміхнуўся.

— Цана, шаноўны Саламон Маісеевіч, ёсць усяму, нават нам з вамі. Колькі просіце?

— Толькі з павагі да Вас, Іван Іванавіч, аддаю амаль без прыбытку. Дзесяць тысяч даляраў.

— Кац, не смяшы гусей! Магу даць пяць тысяч і тысячу за інфармацыю, адкуль гэты пярсцёнак.

— Іван Іванавіч, якія пяць тысяч? Гэта ж Фабержэ! — ледзь не плачучы запярэчыў стары.

— Ну і куды ты пойдзеш са сваім Фабержэ? На базар? Ці аб'яву дасі ў рэкламку? Або міліцыя адбярэ, або бандыты, яшчэ і прарэжуць. А я табе добрыя грошы прапаную. Згода?

Кац у неверагоднай роспачы сеў у крэсла і сапраўды заплакаў:

— Першы раз у жыцці трымаў у руках сапраўднага Фабержэ і вымушаны аддаць за грашы... Што робіцца ў свеце!

А госць тым часам адлічыў названую суму і паклаў перад Кацам.

— Гэта твая забяспечаная старасць. Радуйся, дурань. А цяпер скажы, адкуль цацка?

Гаспадар у адчаі махнуў рукой, згроб са стала грошы і працягнуў госцю копію квітанцыі. Іван Іванавіч уважліва прачытаў і ажно прысвіснуў ад здзіўлення.

— Саламон Маісеевіч, а гэты Ташкевіч — хлопец гадоў трыццаці, рыжы, рост прыкладна метр восемдзесят?

— Так, — механічна пацвердзіў Кац.

— Цікава жыццё разгортваецца, — задуменна прагаварыў мужчына. — Што ж, працягнем знаёмства...

Заканчэнне на стар. 7 »

# Ад «Fabergé»

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

## IV

Вілі Генрыхавіч Штраўбах прачнуўся за імгненне да таго, як са звонам вылецела шыба з акна. І тут жа ў пакой адзін за адным улезлі дзве цёмныя постаці. Адна накіравала рэвальвер на гаспадара дома, а другая рушыла да ўваходу. Пачулася бразгаценне дзвярной клямкі, засаўкі, і неўзабаве ў спальню ўвайшлі яшчэ тры чалавекі. Адзін з іх меў досыць прыстойны выгляд: доўгае чорнае паліто з добрага сукна, капялюш з вялікімі палямі, лакавыя штыблеты. Астатнія класічна падыходзілі пад апісанне бандытаў: нейкія ватоўкі, брудныя боты, шапкі-вушанкі. Кожны трымаў у руцэ зброю. Чалавек у паліто прысеў у крэсла насупраць Штраўбаха, міла ўсміхнуўся і закурыў.

— Вы хто? — не вытрымаў гаспадар.

— Ах, Вілі Генрыхавіч, думаю, гэта рытарычнае пытанне. Вы ж і так здагадаліся, што да вас завіталі бандыты. Праўда, мы сябе называем вольнымі стралкамі.

— Робін Гуды? — чыста аўтаматычна перапытаў Штраўбах.

Субяседнік зноў міла ўсміхнуўся:

— Можаце і так нас называць. Дарэчы, асабіста мяне завуць Іван Іванавіч. Але, шаноўны Вілі Генрыхавіч, мы да Вас па справе. Наш атрад збірае нарабаванае багацце ў былой буржуазіі, каб накіраваць яго на патрэбы былога прыніжанага класа. Вы доўга працавалі галоўным бухгалтарам Мінскага аддзялення «Фабержэ», думаю, тое-сёе прыхавалі на чорны дзень. Хачу паведаміць, што чорны дзень надышоў і Вы можаце выгадна абмяняць каштоўнасці на не менш каштоўнае сваё жыццё. Як Вам такая прапанова?

Штраўбах толькі паціснуў плячыма:

— Вас увялі ў зман. Ну адкуль у мяне, звычайнага бухгалтара, каштоўнасці? Было пару бранзалетак, дык жонка забрала іх з сабой, калі ад'язджала за мяжу. Хіба што ў партманэ ляжаць некалькі царскіх чырвонцаў, то можаце забраць, панове.

— Дыялог не атрымаўся, — расчаравана працягнуў Іван Іванавіч. — Шкада!

І ён выразна паглядзеў на падзельнікаў. Тыя ў момант адрэагавалі. Яны перавярнулі Штраўбаха на жывот і моцна скруцілі яму рукі і ногі дротам, канцы якога прыматалі да металічных спінак ложка. У рот уставілі кляп. Адзін з бандытаў выцягнуў з кішэні бутэльку з газай і пачаў паліваць голыя ступні ахвяры. Другі зняў з абразоў свечку і падышоў бліжэй. Іван Іванавіч нахіліўся над галавой палоннага:

— Зараз, дарагі Вілі Генрыхавіч, мы падпалім вам ступні. Газы ў нас дастаткова, і гарэць Вы будзеце павалі: спачатку ногі, потым тулава, і, нарэшце, дабяромся да галавы, калі Вы яшчэ будзеце здольны гэта адчуваць. Таму або Вы скажаце, дзе каштоўнасці, або паступова падсмажыцеся, як калядны гусь. Будзеце гаварыць?

Штраўбах згодна заківаў галавой. Але як толькі выцягнулі кляп, палонны зароў на ўсю хату:

— Мярзотнікі! Ды як вы смееце! Вас усіх павесяць!

— Палі! — коратка загадаў Іван Іванавіч

Бандыт паднёс свечку да пятак гаспадара хаты — і яны ўмомант успыхнулі. Штраўбах задрыгаў нагамі, твар яго імгненна пасінеў, затым тулава неяк ненатуральна выгнулася і тут жа абмякла.

— Гасі! — зноў закамандаваў галоўны і выцягнуў кляп з рота ахвяры. Вілі Генрыхавіч не падаваў прыкмет жыцця. Іван Іванавіч узяў яго руку і праверыў пульс.

— Памёр, — канстатаваў праз хвіліну. — Відаць, сэрца не вытрымала. Што ж, давядзецца самім шукаць. А дом потым спаліць. Вы…



Фота dzen.ru

Гэта былі апошнія словы Івана Іванавіча, паколькі ў выбітым акне з'явіўся ствол вінтоўкі, раздаўся стрэл, і вядомы ў крымінальным свеце злодзей у законе Картуз, ён жа Іван Іванавіч, паваліўся на падлогу з дзіркай у ілбе.

— Усім на падлогу! — прагучаў з вуліцы загад, і хату пачалі запаўняць міліцыянеры. Бандыты пакорліва палеглі на падлогу.

## V

Валодзя Ташкевіч і яго жонка Маргарыта сядзелі перад тэлевізарам і вячэралі. На стале стаяла адкаркаваная бутэлька віна, на талерках ляжалі кавалкі смажанай курыцы, вараная бульба і тонка нарэзаны сервілат. Вушы Маргарыты ўпрыгожвалі новыя завушніцы.

— Які ж ты ў мяне малайчына! — ужо ў каторы раз нахвальвала яна мужа. — Такі цяжкі час, а ў нас стол ломіцца ад дэлікатэсаў. І ўсё дзякуючы табе, дарагі!

Яна гучна чмокнула Валодзю ў шчаку. Па кватэры прарэзліва прагучаў дзярны званок.

— Каго яшчэ чэрці прынеслі? — незадаволена прамармытаў Ташкевіч і пайшоў да дзвярэй. — Хто там?

— Суседзі знізу. Заліваеце.

Валодзя хуценька адчыніў дзверы.

— Дык мы і не ўключалі ваду…

Сказаў і аслупянеў. З парога яму ўсміхаўся Іван Іванавіч, ранішні працадаўца. За ім узвышаліся тры здаравенныя мардавароты.

— Вы ў нашым пад'ездзе жывяце? — разгублена запытаў Валодзя.

— Не, Вовік, не жыву… — жыццярадасна адказаў госць, — але ўсё яшчэ можа быць.

Ён адсунуў гаспадара ўбок і прайшоў у кватэру. Адзін з амбалаў падштурхнуў хлопца ў плечы, і той пакрочыў следам.

— Добры дзень, шаноўная гаспадыня! — прывітаўся Іван Іванавіч з Маргарытай, завітаўшы ў гасцінную. — Даруйце, што перапынілі святочную вячэру, але, спадзяюся, мы не надоўга. З Вашага дазволу…

І ён сеў на канапу. Два мардавароты сталі па баках Валодзі, трэці — за спінай Маргарыты.

— Мяне, шаноўнае спадарства, цікавіць толькі адно пытанне: адкуль у вас з'явіўся гэты прадмет? — госць дастаў з кішэні пярсцёнак Фабержэ.

— Ад бабулі, — адказаў Ташкевіч.

— Ах, Вовік, Вовік, нядобра хлусіць гасцям, — Іван Іванавіч незадаволена паматаў галавой. — Твая бабка, як і яе бабка, усё жыццё працавала на зямлі, і максімум, што мела, гэта танны срэбраны пярсцёнак на ўласным вяселлі. А за такі пярсцёнак яна магла б купіць усю воласць. У вас, Вовік, была свая воласць?

— Не, не было, — сур'ёзна адказаў Валодзя, не заўважыўшы гумару госця.

— Ну вось, значыць, не ад бабулі. І нешта мне падказвае, што з'явіўся ён у цябе толькі сёння. Адсюль і такая раскоша на стале. Я не памыляюся, шаноўная Маргарыта?

— Ды як вы смееце, — раз'юшана закрычала жанчына, — уварваліся ў чужую кватэру і яшчэ нахабнічаеце! Я міліцыю выклічу!

Бандыт, які стаяў за ёй, коратка рубануў далонню дзяўчыне па шыі, і яна ўраз абмякла ў крэсле, страціўшы прытомнасць.

— Што робіце, казлы?! — крыкнуў Уладзімір і атрымаў ад сваіх вартаўнікоў удары ў жывот і па нырках. Ён упаў на калені і скурчыўся ад болю.

— А так хацелася разысціся па-добраму, — з сумам заўважыў Іван Іванавіч. — Не атрымалася. І тым не менш, Вовік, паўтару сваё пытанне: адкуль у цябе пярсцёнак?

Ташкевіч з нянавісцю зірнуў на яго і ледзь чутна вымавіў:

— Знайшоў сёння ў доме, што разбіралі.

— Я так чамусьці і падумаў, — усміхнуўся бандыт. — Што яшчэ знайшоў?

Валодзя выцягнуў з кішэні другі пярсцёнак, затым падышоў да кніжнай паліцы і дастаў пашпарт Штраўбаха. Усё гэта паклаў на стол.

— Вось і малайчына! — пахваліў яго візіцёр. — Чаму б адразу не вярнуць гаспадару яго дабро? Што за людзі? Але, Вовік, ты забыўся пра грошы, што атрымаў за мой пярсцёнак ад Каца. Прынясі, калі ласка, а тады пагаворым вось пра гэтыя прыгожыя завушніцы, што так зіхацяць на твоёй жонцы.

Ташкевіч затраўлена паглядзеў на бандытаў, перавёў позірк на жонку і пакрочыў да курткі, што вісела ў прыхожай. Бандыты пацягнуліся за ім. Валодзя засунуў руку ў кішэнь і, выцягнуўшы адтуль газавы балончык, пырснуў у твар аднаму і другому. Тыя ажно ўзвылі ад болю. А хлопец тым часам кінуўся да дзвярэй, але трэці бандыт імгненна дастаў з-пад світара пісталет і стрэліў таму акурат у патыліцу. Ташкевіч упаў на падлогу. Іван Іванавіч зморшчыўся:

— Ну чаму ўвесь час нейкія выбрыкі здараюцца? Трэба было забіваць?

— Дык ён збег бы, — пачаў апраўдвацца бандыт.

— Ах, — махнуў рукою Іван Іванавіч, — пра што тут гаварыць… Ну дык разбярыся тады і з гэтай паненкай, не пакідаць жа сведку. Толькі здымі завушніцы.

Бандыт перадаў гаспадару ўпрыгожванні, а сам прыставіў да скроні Маргарыты пісталет і стрэліў.

Іван Іванавіч уважліва разглядзеў завушніцы, задаволена хмыкнуў і накіраваўся да выхаду. Бандыты пакрочылі следам. Яны селі ў машыну, і кіроўца запытальна паглядзеў на шэфа.

— На Аранскую! — загадаў той.

## VI

Мікіта Апанасавіч Коўрах павольна цягнуўся па Аранскай вуліцы, шукаючы месца для начлегу. Кудлатыя валасы, драпае бруднае адзенне, а галоўнае, моцнае амбрэ ад даўно не мытага цела выразна сведчылі, што Мікіта Апанасавіч пражываў у статусе бамжа. Але такі стан рэчаў, тым не менш, яму падабаўся — вольны чалавек. А сённяшні дзень і ўвогуле выдаўся надзвычай добрым. Па-першае, раніцай нейкаму мужыку дапамог зацягнуць халадзільнік на пяты паверх, за што атрымаў рубель. Па-другое, выпадкова натыкнуўся на добра апранутага грамадзяніна на падпітку, які спаў на лаўцы ў парку. Коўрах крыху пасядзеў побач, а потым акуратна выцягнуў з кішэні таго кашалёк. Праўда, знайшоў там толькі тры рублі (астатняе, пэўна, прапіў, га́дзіна), але і гэта штосьці… Мікіта да вечара паблукаў па горадзе, але больш прыбытку не было. Тады зайшоў у магазін, купіў бутэльку віна, кальцо ліверкі, хлеба, а потым, крыху павагаўшыся (эх, гуляць дык гуляць), плаўлены сырок «Дружба». І вось засталося знайсці ціхае месца і зрабіць сабе свята жывата. Увагу Мікіты прыцягнула расчышчаная пляцоўка, на якой яшчэ ўчора стаяў дом. Цяпер жа дома не было, а тырчаў толькі фундамент.

«Разабралі, пэўна, — падумаў мужчына. — Але дом стары, думаю, і піўніца ў ім была. Трэба праверыць.»

Мікіта пахадзіў па пляцоўцы, тамсям адграбаючы рэшткі смецця і пяску, і заўважыў вялізнае кольца, прымацаванае да люка. Ён пацягнуў кольца на сябе, вечка даволі лёгка паддалося, і перад вачыма Коўраха паўсталі мураваныя сходні кудысьці ўніз. Мікіта намацаў у кішэні запалкі і агарак свечкі, запаліў яе і асцярожна стаў спускацца. Піўніца была вялікая, абкладзеная цэглай. На падлозе валяліся некалькі пустых скрынь, у куце бачылася горба нейкіхануч. Выдатнае месца для пікніка!

Мікіта умацаваў свечку на скрыні, а сам падняўся па сходах, зачыніў люк і вярнуўся назад. Хуценька накрыў стол, дастаў з кішэні складную шклянку (каштоўная рэч!), наліў да краёў і з задавальненнем усю выпіў. Прыемнае цяпло пабегла па целе. Мікіта няспешна прыкусіў і пайшоў даануч. Старыя, брудныя, што яны тут рабілі — не зразумела. Ён нагой пачаў раскідваць гэтую горбу, як раптам балюча стукнуўся аб нешта цвёрдае.

Бомж запусціў у горбу рукі і неўзабаве намацаў нейкі скрутак. Разгарнуў асцярожна і ажно ахнуў: перад ім ляжаў сапраўдны рэвальвер у густой змазцы. Мікіта ажно ўзмакрэў. Трэба было падмацавацца. Ён наліў яшчэ адну шклянку, выпіў і пачаў анучамі сціраць са зброі змазку. І вось на далоні ляжыць прыгожы, бліскучы, як у кіно, рэвальвер. Цікава, хто яго тут схаваў? А, можа, ён сапсаваны ці патронаў няма? Віно ўжо крыху затуманіла розум, і Мікіта адважыўся на эксперымент. Ён узвёў курок, прыцэліўся ў адну са скрынь і націснуў на курок. Грымнуў стрэл, і ад скрыні адляцела трэска.

— Нічога сабе! — са здзіўленнем адзначыў Коўрах і наліў трэцюю шклянку. Выпіўшы, прываліўся спінай да сцяны і захроп. Прачнуўся Мікіта ад рэзкага ўпартага святла. Ён расплюшчыў вочы. Па твары бегаў прамень ад ліхтарыка.

— Шэф, тут толькі нейкі бомж спіць, — пачаў Мікіта голас.

— Дык выкінь яго адсюль, — загадаў нехта.

— Можа, прасцей застрэліць. Кранаць рукамі гэтую брыдоту не хочацца.

«Зараз мяне заб'юць», — пранеслася ў ачмурэлай галаве Мікіты. І тут жа накаціла неверагодная нянавісць да гэтых прышэльцаў за ўсё змарнаванае жыццё.

— А-а-а! — прарэзліва закрычаў Мікіта, выцягнуў з кішэні рэвальвер і пачаў страляць у дзвярны праём. Ліхтарык бля́мкнуў і пакаціўся па падлозе. Штосьці яшчэ бухнулася на зямлю, а па прыступках нехта пабег наверх.

Мікіта падняў ліхтарык і пасвяціў. На падлозе ляжалі два мужчыны: адзін хударлявы, у добрым чорным паліто, другі здаравы у кароткай скуранай курткі. Абодва ўжо не дыхалі. Коўрах палез у іх кішэні. Здабыча была нядрэнная: дзвесце трыццаць рублёў, трыста далярaў, а яшчэ два залатыя пярсцёнкі з каменьчыкамі і завушніцы.

— Заўтра аднясу Кацу. Ён купіць, — задаволена прамармытаў Мікіта Апанасавіч, нацягнуў на сябе паліто і капялюш забітага Івана Іванавіча, схаваў пад світарам рэвальвер і пачаў падымацца па сходнях на вуліцу.

# Масавае і элітарнае: Бэтмэн супраць Быкава



Людміла СІНЬКОВА

Мы жывем у часы, калі лёгкае чытво ў крамах усяго свету актыўна выцясняе з кніжных паліц элітарную літаратуру. І Беларусь тут не выключэнне.

Варта, напрыклад, зайсці ў Цэнтральную кнігарню Мінска на праспекце Незалежнасці і паглядзець, што за кнігі гартаюць патэнцыяльныя пакупнікі. Мы адразу ўпэўнімся, што большасць цікавіцца ўзорамі так званай масавай літаратуры.

Пра гэты факт варта задумацца спецыяльна.

### Што такое масавая літаратура?

Масавымі лічацца кнігі, у якіх пра што заўгодна расказваецца элементарна, «на пальцах»: гэта папулярныя думкі ў папулярных формах, гэта «простыя словы, простыя рэчы» для «простага» чытача. Вось тут і трэба агаварыцца. Ёсць рознае «простае». Ёсць, безумоўна, зусім прымітыўнае, белымі ніткамі шытае. Але ў большасці выпадкаў гаворка пра іншае.

Калі дасціпныя Міхал Анемпадыстаў і Лявон Вольскі (аўтары песні са знакамітым слоганам пра простыя словы і простыя рэчы) маюць на ўвазе «хлеб на стале і полымя ў печы», дом, сям'ю, наш беларускі свет, то мы разумеем: насамрэч гэта зусім не элементарна — пабудаваць свой дом, вырасціць сына, зладзіць агмень. І мы адчуваем усмешку аўтараў, перажываем эйфарыю, слухаючы Вольскага: як гэта здарова, што творцы змаглі перафарматаваць у папулярны слоган нашыя сакральныя сэнсы.

Аналагічна: чытаючы Васіля Быкава, ніхто не думае, што «У тумане» — гэта толькі дэтэктыў. Любому ясна, што тут форма дэтэктыва абслугоўвае Быкава, а не наадварот (і ў фільме Сяргея Лазніцы 2012 года па Быкаву, трыумфатары 65га Канскага фестывалю, той жа дэтэктыў абслужыў артхаус).

Банальны прыклад такога ж кшталту — амаль увесь Дастаеўскі. І наадварот: кароткі слоган на тэму «Нигде, кроме / как в Моссельпроме» (нават калі яго аўтар — сам Маякоўскі) — гэта ўсяго толькі масавая рэклама. А дэтэктыў, у якім няма нічога звыш таго, што нехта некага забіў, у кагосьці штосьці скраў ці падмануў чужую жонку — гэта толькі масавае чытво: разгадванне крыжаванкі, скакалка для мазгоў, вінпацэцін.

### Чаму літаратура для масаў такая папулярная ва ўсім свеце?

Вядома, у іншых народаў таксама ёсць свая міфалогія, казкі, літаратура і культура — але няма такіх тэхналагічных і фінансавых магчымасцяў, каб трансляваць уласнае светабачанне ўсім і кожнаму, хто ахвочы спажываць прафесійна прыгатаванае і ўпакаванае. Але, можа быць, нават больш важная за эканоміку тут псіхалогія: масавая літаратура актыўна і наўпрост звяртаецца да нашага ўнутранага жыцця: да нашых патаемных жаданняў, мар, нашай фантазіі, уяўленняў пра будучыню, нашай прагі незвычайных прыгод і асалод, яскравых эмоцый... Не толькі да свядомага, але і да падсвядомага, да інстынктаў, страхаў і комплексаў.

Фрэйд з яго тэзісамі пра сублімацыю ў ХХІ стагоддзі аказаўся суперактуальным. І калі чалавек не хоча засмучаць сябе надзвычай траўматычнай праўдай пра рэальныя войны і чарнобылі, сацыяльны гвалт і абсурд, то відовішчы гвалту ў трылерах, дзе брутальнага героя лупяць жалезным прэнтам па галаве, а ён пасля гэтага ўсіх лупіць двума прэнтамі, якраз глядзіцца ледзь не з катарсісам.

### Ці вінаватыя людзі ў тым, што любяць масавую літаратуру?

У любові, кажуць, ніхто не вінаваты. Сярэднестатыстычны чытач вінаваты хіба ў тым, што ён лэйзі — гультай. Ён хоча толькі пасіўна спажываць, стоячы ля прыгожай вітрыны, інфантыльна ідучы за мерчандайзерам (тавараведамрэкламшчыкам), не даючы сабе працы задумацца, што можна шукаць у кніжнай краме... Ён падатлівы, ён гатовы саступіць: нашто чытаць «У тумане» (экзістэнцыйную драму), калі можна — Марыніну (мікс дэтэктыва з жаночай прозай)? Нашто глядзець яшчэ і нізкабюджэтны «Салярыс» (філасофскую прытчу), калі можна — толькі найвысокабюджэтны «Аватар» (казкуфэнтэзі)?



Фота roliksprint.com

Але чытацкая падатлівасць — якасць перспектыўная, яна дазваляе чытачу расці. Асабліва, калі рост пачынаецца ў юнацкія гады і з такіх выдатных аўтараў, як Эдгар По і Уладзімір Караткевіч, Агата Крысці і Людміла Рублеўская, Баляслаў Прус і Уладзімір Арлоў... Такое чытанне выхоўвае густ і вучыць выбіраць!

Чаму мы аднойчы ўсё ж абавязкова выбіраем класіку? Чаму аднойчы абавязкова запальваем свечку? Таму што ў душы кожны ведае, што ёсць на свеце рэчы вялікія, абсалютныя, светланосныя, пра якія гаворыць нам Слова.

Слова — гэта Бог (так запісана Янам Басловам). Ніякі рэнтген не можа выявіць у чалавечым целе душу. Гэта можа толькі слова. І калі мы захочам адчуць трывалае апірышча для сваёй душы ў нейкую змрочную часіну або прыгадаць некалі перажытую асалоду ад гармоніі і хараства, досціпу, якія заўсёды можна знайсці ў слове, мы адкрываем сур'ёзныя кнігі.

### Чаму Бэтмэн ніколі не пераможа Быкава?

Калі запытацца ў мінака на вуліцы пра яго любімыя кнігі, то чалавек, калі ён не жартуе, памкнецца ўсё ж назваць і нешта аўтарытэтнае. Сярод значных для сябе ён назаве і тыя творы, што замацаваны грамадствам у высокім аксіялагічным рэгістры. Інстынктыўна кожны адчувае: кругагляд сучаснага чалавека не павінен быць абмежаваны толькі нейкім культурным фастфудам.

Ды і яшчэ адно тлумачэнне такому выбару ёсць. Літаратура для масаў ніколі не пераможа класіку, не зможа заняць яе месца найперш таму, што кожнаму чалавеку наканавана расці і сталець. Няхай сабе многія школьнікі з Пушкіна найтрывалей запамінаюць фразу «выпьем с горя; где же кружка? / Сердцу будет веселей», а выраз «и мальчики кровавые в глазах» звязваюць выключна з якімінебудзь разборкамі. Аднак гэта ж не азначае, што трэба выкінуць са школьнай праграмы пушкінскага «Барыса Гадунова» на карысць якойнебудзь «Гаўрыіліяды» або пакінуць толькі верш «Зімні вечар». Калі з «Палескай хронікі» вучні найлепш запамінаюць гісторыю кахання Васіля, Ганны і Яўхіма, то гэта яшчэ не значыць, што настаўнік павінен трактаваць Мележа як «Богатые тоже плачут», каб навучыць падлеткаў любові да беларускай літаратуры і культуры, развіць інтэлект. Няхай у купалаўскай страфе — «Сярод раз'юшаных сатрапаў / Крывавы зладзіўшы хаўрус, / Свае таргуюць і чужыя / Табой, няшчасны беларус» — хтосьці напачатку будзе разумець толькі адно словазлучэнне: «няшчасны беларус»... няхай напачатку з кімсьці будзе менавіта так. Але ж усе школьнікі абавязкова вырастуць. І важна, каб будучыя дарослыя з гэтай страфой, з цэлай Атлантыдай літаратурнай класікі і захаванай у ёй культуры проста не размінуліся. Тады ў іх застанецца шанс яшчэ з ёю сустрэцца, многае зразумець. Бо ў дарослым жыцці менавіта сур'ёзнае, культурай напоўненае слова дае сэнс, апірышча, арыенціры для быцця ў гэтым свеце.

Такую функцыю пісьменства для рэлаксу (таксама ж патрэбнае!) выконваць не здатнае. Яно, як правіла, якраз дэзарыентуе — на карысць таго, хто «трымае бізнес».

Калі ж чытач хоча ўсё жыццё заставацца інфантылам, выключна звяном у «харчовым» ланцужку, то гэта яго асабістая праблема. Класічная літаратура тут ні пры чым. А вось інтэлігенцыя — «пры чым»: сцвярджаць сапраўды вартае належыць у першую чаргу ёй.

# Маналогі пра рай, жыццё і шчасце



Васіль АЎРАМЕНКА

**Маналог аптыміста**

Рай — чакае абраных; шчасце — заўжды незаўважнае, жыццё таксама мінае неўпрыкмет, і толькі будучыня — вечная, непахісная і зіхонкая, як Эверэст.

**Маналог песіміста**

Рай — заўсёды згублены; шчасце — за гарызонтам; жыццё даецца дарма, а будучыня — міраж, якога ніхто не дасягне, бо заўжды застаецца тут — у багне цяпершчыны.

**Маналог эгаіста**

Рай — міраж для слабых; шчасце — тое, што я раблю сам для сябе; жыццё даецца толькі аднойчы, а будучыня — катастрофа, якую я, спадзяюся, не пабачу.

**Маналог гумарыста**

Рай — месца, дзе ўсе смяюцца да слёз ці ад смеху плачуць; шчасце — калі з цябе ўсе рагочуць, а табе хоць бы хны; жыццё — мае сэнс, пакуль ёсць нагода да смеху; будучыня — адзіная рэч, з якой ніхто не смяецца. А дарма.

**Маналог рэаліста**

Рай — тое, што ты хацеў зрабіць, але так і не зрабіў; шчасце — імгненне, калі жыццё набывае сэнс і паўнату, як чарка, налітая да краёў; жыццё — рай, які перыядычна ператвараецца ў пекла; будучыня — мінуўшчына, перакуленая наперад.

**Маналог камуніста**

Рай — сон, у якім камунізм нарэшце дабудаваны; шчасце — будаваць камунізм; жыццё — бясконцая барацьба з капіталізмам; будучыня — вечны напамін аб непабудаваным камунізме.

**Маналог фэменіста**

Рай — месца, дзе мужчыны і жанчыны мяняюцца месцамі; шчасце — аддаваць жанчыне больш, чым яна можа прыняць; жыццё — пошук раўнавагі між М і Ж як унутры сябе, так і спаміж людзей; будучыня — час, калі не стане полаў.

**Маналог будыста**

Рай — тое, чаго няма; шчасце — тое, што немагчыма; жыццё — шкодная, часовая ілюзія; будучыня — тое, чаго можна і абавязкова трэба пазбегнуць.

**Маналог анархіста**

Рай — месца, дзе канчаецца ўлада; шчасце — стан поўнай разняволенасці; жыццё — татальная залежнасць усіх ад усяго; будучыня — этап духоўнага вызвалення на фоне далейшага фізічнага закабалення.

**Маналог суддзі-хрысціяніна**

Рай — месца збору паслядоўнікаў Хрыста пасля апошняга судовага працэсу; шчасце — знайсці сябе ў спісах райскіх перасяленцаў; жыццё — грэхападзенне перад святавыкупленнем; будучыня — перадсудовая пачакальня, дзе ёсць надзея на літасць прысяжных.

**Маналог прафесійнага футбаліста**

Рай — месца, дзе ў футбол гуляе хто і калі хоча і абсалютна задарма; шчасце — калі за добры футбол даюць добрыя грошы; жыццё — калі за добры футбол даюць па нагах; будучыня — калі футбол і грошы канчаюцца, а ты яшчэ застаешся.

**Маналог габрэя**

Рай — там дзе нас няма; шчасце — тое, што даецца задарма; жыццё — тое, што каштуе занадта дорага; будучыня — месца, дзе нам заўсёды не рады.

**Маналог праграміста**

Рай — месца, дзе няма камputараў; шчасце — стан адсутнасці праграм; жыццё — месца, дзе заўсёды адбываецца збой праграмы; будучыня — час, калі кожны сам сабе стане праграмістам, манапалістам ці пафігістам.

**Маналог беларуса**

Рай — месца, дзе ўсе разумець усіх, бо маўчаць чыста па-беларуску; шчасце — рабіць тое, што хочаш і не мець за гэта непрыемнасцяў; жыццё — рабіць тое, што ад цябе чакаюць; будучыня — займець свой хутар з краю, адкуль на свет пазіраю, ды ўладу сам над сабой маю.

**Маналог кітайца**

Рай — Паднябесная, у якой можна жыць, не маючы суседзяў; шчасце — мець сваю маленькую Паднябесную, не пакідаючы Вялікай; жыццё — існаванне там, дзе ёсць праца і начальства; будучыня — каб кожны амерыканец жыў, як кітаец.

**Маналог яйка**

Рай — тое цёплае месца, з якога ўсё выйшла; шчасце — апынуцца там, дзе ўтульна, як у раі; жыццё — холад лядоўні, пякельная пакута патэльні ці сага курынага нараджэння; будучыня — завесці ў сабе рай і перадаць эстафету наступнаму яй... Хай нешта прыдумае і яно.

# Гутарка пра любоў да радзімы



Віслава ШЫМБОРСКА

## Не бывае штосьці двойчы

*Не бывае штосьці двойчы*
*і не будзе. З той прычыны*
*мы прыйшлі без прывілеяў*
*і памром тут без руціны.*

*Нат калі ў самай дрэннай*
*нас вучылі школе света,*
*павярнуць назад не можам*
*ані зімку, ані лета.*

*Не паўторацца ніколі*
*І дзве зоркі цёплай ночы,*
*самы смачны пацалунак*
*і твае з імпэтам вочы.*

*Як твае імя пачую,*
*акрыляе анёл сэрца,*
*быццам ружу нехта кінуў*
*у адкрытае акенца.*

*Сёння я з табою разам,*
*а між намі зімкі намець.*
*Дзе ж ты знікла мая ружа?*
*Ці ж ты кветка? Можа, камень?*

*Чаму ж злосная хвіліна*
*з непатрэбным лезе пеклам?*
*Калі ёсць, то мусіць знікнуць.*
*Мусіць знікнуць — гэта ж пекна.*

*Усміхаемся ўзаемна,*
*узаемна, як заўжды,*
*падабенства паміж намі,*
*як дзве кропелькі вады.*

## Гутарка пра любоў да радзімы

*І без любові можна жыць*
*з пустотай сэрца, бы ў арэху,*
*маленькі лёс напарсткам піць*
*здалёк ад бойні і пацехі.*

*На чорны дзень расціць надзею*
*заўжды апошнюю на Бога,*
*пра дым пустэчы мовіць: днее,*
*пра промні сонца анічога.*

*Айчына сонечнага краю,*
*не стану я ўпаўшым дрэвам.*
*Штодня ў цябе я ўрастаю*
*пашанай, радасцю і гневам.*

*Не буду рваць з табою ніці*
*ўзнёслым словам з нашым лёсам.*
*І без любові можна жыць,*
*але, на жаль, не пладаносіць.*

*Яе мінуласць пад пластамі...*
*Падчас сярод дарогі стану:*
*магчыма, песня вабіць снамі,*
*што ў сіняве плыве над намі,*

*а можа збан, ці той нарог*
*які ва ўлонні зямлю грэе,*
*ці наш прадзедаўскі парог,*
*з якога крочыла надзея?*

*Адсюль гавораць мне вякі,*
*дзе — уяўленняў многа маю.*
*Ляжачы камень з дна ракі,*
*Падняўшы, шчыра вывучаю.*

*З яго разбяр, найначай, прышлы,*
*разбярыць твар сваім патомкам.*
*А камень той з вытокаў Віслы*
*засведчыць час скульптурай ёмкай,*

*каб на тым твары быў спакой,*
*дабро з разумнаю ўсмешкай.*
*Народзе мой, і я з табой*
*пайду на смерць тваёю сцежкай.*

*Гадоў нязлічана над намі.*
*Зямля радзімы пад нагамі.*
*Я без цябе амаль ніхто,*
*як беспрытульнае гняздо.*

## Цень

*Мой цень як блазен з той гульнёю.*
*Як каралева з крэсла ўстане,*
*то й ён падскочыць на тапчане*
*і столь тараніць галавою.*

*Цікава, пэўна, гэтак жыць*
*на гэтым свеце, дзе ёсць болі,*
*дзе пуцяводнай блазна ніць*
*не можа быць у іншай ролі.*

*Падчас як гляне каралева*
*з вяршыняў замкавых у сад,*
*то й блазен долу ляціць смела.*
*На жаль не роўненькі расклад.*

*Мой блазен згроб стырно ўлады:*
*карону, скіпетр, алілуя,*
*чаму і я не вельмі рада,*
*і з бессаромнасцю кіруе.*

*Ах, буду лёгкаю ўдвайне*
*і галаву схілю ў паклоне,*
*калі, кароль, пашчасціць мне*
*з табой расстацца на пероне.*

*Паглянь, кароль людскіх дарог,*
*вунь блазан мой на рэльсы лёг.*

**Пераклаў з польскай М. КУРЫЛОВІЧ**

# Між крыжоў і пліт



Паўло ВОЛЬВАЧ

***

*Верыцца не ветру — цішыні,*
*Сівізне па летах і па зімах.*
*Але ж ноч!.. І ў ноч плывуць агні —*
*І цякуць па дрэвах, па ўспамінах.*

*Чуеш?.. Слухай: дрэваў абалонь*
*Жывіць гул з прадонняў незапёртых,*
*І няўлоўна, як да скроні скронь,*
*Жылка ў жылку — галасы ўсіх мёртвых.*

*Шапацяць, стаяць дарог наўзбоч,*
*Шэпты іх — да болю, да крыві нам...*
*І няўлоўна: Украіна... ноч...*
*Хай няўлоўна.*
*Але ж*
*Украіна!*

***

*Ну і што, што недзе там Амерыка,*
*У якой валтузяцца народы.*
*Вунь дзяўчо, і праз хвіліну — Жмерынка,*
*І табе ў той Жмерынцы на сходы.*

*А дзяўчо мільгне за агароджаю,*
*У суцемках знікне, прападзе.*
*Прыйдзе да кагось, як ноч, прыгожая...*
*Жмерынка.*
*Амерыка.*
*Што дзе...*

***

*Жыццё бяжыць па вуліцы дзяўчынкаю,*
*А ўслед за ёй — са мною пад руку —*
*І жаль, і хмель, і музыка, што чыркае*
*Аб неба птахам, чоўнам аб раку.*

*І, як вясёлка, вертыкальна выгнуты*
*Шлях ад радзільні аж да цвінтару...*
*У гэтым свеце і абраў, і выбраў я*
*Дарэшты ўсё. І рэшту дабяру.*

***

*Паўсюль вятры, як злодзеі залётныя.*
*Крыві лятучай невядомы спын.*
*Яшчэ — жанчыны залатымі плоткамі*
*У срэбнае вадзе, дзе ты адзін.*

*Яшчэ вунь там, над кручаю былiннаю*
*Паўстаў Шаўчэнка — ветры корміць*
*з рук.*
*А што яшчэ?.. А плынь нябёс*
*няспынная*
*На Стэп,*
*на Ніз,*
*на Луг,*
*на Базаўлук...*

***

*Жніва чакаеш па сяйве,*
*На бруку між каменняў сцёртых*
*Шукаеш кветкамі ў траве*
*Жывых між нежывых і мёртвых.*

*«Пустое!..» — між крыжоў і пліт*
*Спяшаеш і ўціскаеш плечы,*
*Блукаеш — сам сабе егіпт —*
*Сам цемрадзь у сваёй пустэчы.*

***

*За рог, праз арку — і наўкол*
*Пад месяцам над мінарэтамі,*
*Як з неба скінуты, Падол*
*З непрачытанамі прыкметамі*
*Часоў і новых, і былых,*
*Што між вякамі сталі стыкамі.*
*...І памінальныя сталы*
*Пад зоркамі над базілікамі...*
*Няхай хаўтурным святарам*
*Заззвычай адчуваць агонію —*
*Ён Храм. Ён Замкавы. А там —*
*Шукаць шляхі на Македонію.*

***

*Няма ні змен, ні вінграну* замены.*
*Веніяміні... Вершы з вены ў вену...*
*Пах валяр'янкі, плямы на стале.*
*Чырвоны ліст на парапеце стыне,*
*З натоўпу позірк раптам страляне,*
*І зноўку тло асенняй ломкай плыні...*
*То ж я — на тле.*
*Тысячавокай запарожскай змовай*
*Здаля ці зблізку раптам бліснe слова,*
*Якое не забыць і не пазбыць,*
*На лаву ў парку і ў дзясятку «марку»*
*Са мной сядае, падаé цыгарку,*
*Пытаецца: а тут табе кім быць?*
*(А паўз усё мігціць, бяжыць, ляціць...)*
*Я прамінаю браму ў голы скверык,*
*Ад ветру падымаючы каўнерык,*
*П'ю на Падоле цьмянае віно,*
*Па вуліцы, што на вачах радзее,*
*Іду сабе, прыдумваю надзеі*
*І долю, што прыдумана даўно.*

***

*Што ў навінах? Зіма як зіма.*
*Снег... І дым над гарбамі гарбее.*
*Вінграноўскі пайшоў — і няма.*
*Як шарэў, мост Маскоўскі шарэе.*

*Плюс, такое, пра што й не сказаць,*
*Што чуваць з-пад зямлі — незямное:*
*Хутка — цалкам усім ўваскрасаць,*
*А на чвэрць — ужо гэтай вясною.*

***

*У акладзе лістападу*
*Толькі золата адно.*
*(А цікава: з Цараграду*
*Зззянне Кіева відно?*

*З гэтым, быццам на карціне,*
*Бегам круч — бы ветру ўслед?)*
*...Тонкім рвуцца павуцiннем*
*Сны-трызненні пра сусвет,*

*Пра бліскучы, пра лятучы,*
*Пра няўлоўны свет хімер*
*З гэтай, скінутай на кручы,*
*Музыкай нябесных сфер...*

*Б'юць па сферах бліскавіцы,*
*Па зямлі ідуць жанкі...*
*Вось жа йдуць... І залаціцца*
*Завіток каля шчакі...*

***

*Так склалася: сярод усіх адна*
*Жанчына. Восень. Сінь.*
*Распуснымі губамі*
*Цалуе, шэпча штось,*
*знікаючы, яна.*
*Хістаюцца дымы.*
*І Кіеў — за гарбамі.*

*Здзіўляйся сам сабе.*
*І ўсё, як ёсць, прымі,*
*Пранізаны, як пыл,*
*сурмою залатою.*
*Свет неба і зямлі*
*стаў крыламі тваймі —*
*У пыле залатым*
*ты ўскрыліш над сабою.*

**Пераклаў з украінскай Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

*Маецца на ўвазе паэт Мікола Вінграноўскі.

# Мае сустрэчы з Клаўдыем Дуж-Душэўскім

*У «Літаратурную Беларусь» патрапіў канвэрт з успамінамі Ірыны Пальчынскай. Спадарыня Ірына шчыра і дэталёва апісала гісторыю свайго радаводу і свой лёс. Нарадзілася яна 2 сакавіка 1927 года ў Клецку, закончыла медыцынскую школу ў Баранавічах (вучылася па праграме Віленскай беларускайгімназіі).*

*«Пасля выгнання немцаў зноў вярнулася на вучобу ў Баранавічы, — згадвала спадарыня Ірына, — у фельчарска-акушэрскую школу, якую скончыла і была накіраваная на працу ў Клецак. Мела сям'ю, мужа і дачку Кацьку. Але шчасце было нядоўгім. 10.07.1951 года была арыштавана ў тых жа Баранавічах, куды паехала па медыкаменты. Асуджана за «прыналежнасць да антысавецкай арганізацыі СБМ і антысавецкую прапаганду» — сшытак з вершамі! — да 10 гадоў Папраўча-прымусовай калоніі і 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Пакаранне адбывала ў адным з лагероў на Валагодчыне, на лесапавале. Пасля смерці Сталіна ў лютым 1954-га этапавана ў лагер «Шылуцэ» каля Каўнаса. Вызвалена 16.05.1955 года, вярнулася ў Клецак, але сям'я за гэты час распалася. Забраўшы дачку, паехала да сяброў па лагеры ў Вільнюс і працавала па спецыяльнасці пры філіяле бальніцы «Чырвоны крыж». Тут аддала замуж дачку, прычакала ўнука. Але ў 1986 годзе вярнулася ў Клецак, атрымала двухпакаёўку як кампенсацыю за бацькоўскую хату. Жыву на пенсію, пішу ўспаміны свайго жыцця».*

*Напрыклад — пра легендарную асобу нашага мінулага, пра аднаго з першых грамадзянаў вольнай БНР, пра дужага духам і справай Клаўдыя Дуж-Душэўскага, які на падставе колераў народных строяў і арнаментаў стварыў эскіз беларускага нацыянальнага сцяга, які ўпершыню ўзняўся над Менскам падчас Усебеларускага з'езда ў 1917 годзе.*

*Архітэктар, выдавец, грамадскі дзеяч Клаўдый (Клаўдзій) Сцяпанавіч Дуж-Душэўскі нарадзіўся 27 (ці паводле ніжэйапублікаванага сведчання — 26-га) сакавіка (старога стылю) 1891 года ў Глыбокім Дзісенскага павета (цяпер Віцебская вобласць). Скончыў Віленскую рэальную вучэльню. Вучыўся ў Пецярбурскім горным інстытуце. У 1921-м прыехаў у Коўна. Працаваў на розных афіцыйных і неафіцыйных пасадах: ад выкладчыка Віленскай беларускай гімназіі да дыпламатычнага прадстаўніка Беларускай Народнай Рэспублікі ў краінах Балтыі і Дзяржаўнага сакратара ва ўрадзе БНР на чале з Вацлавам Ластоўскім. Пасля далучэння Летувы да СССР К. Дуж-Душэўскі трапіў у савецкую турму. Падчас нямецкай акупацыі яго за дапамогу габрэям кінулі ў нацысцкі канцлагер. А потым як «актыўны беларускі нацыяналіст» быў асуджаны да 25 гадоў зняволення ў канцлагерах ужо савецкіх.*

*Дзе і пазнаёмілася з ім Ірына Пальчынская...*

*Спачыў Клаўдый Дуж-Душэўскі 25 лютага 1959 года...*

***А. А.***

Ірына ПАЛЬЧЫНСКАЯ

<...> З Клаўдыем Сцяпанавічам я была знаёмая асабіста. Так сталася, што мы абое апынуліся ў адным лагеры ў статусе палітвязня і ў адзін дзень выйшлі на волю.

У канцы свайго тэрміну зняволення, у 1954 годзе, я, як інвалід II групы, была пераведзена з Каргопальлага ў Літву, у лагер Шылутэ. Гэта быў інвалідны лагер, падзелены на мужчынскую і жаночую зоны. У жаночай зоне размяшчаўся ДМР («Дом матери и ребёнка») і, калі яго можна так назваць, радзільны дом: маленькае памяшканне на пяць коек. Там я працавала па спецыяльнасці акушэркай.

Звычайна парадзіхі 10—12 дзён знаходзіліся ў радзільным доме, потым дзетак пераводзілі ў ДМР, а мамаў вярталі ў баракі. Некаторым шанцавала прыстроіцца ў ДМР нянечкамі ці прыбіральшчыцамі, каб быць разам з дзеткамі.

Побач, у мужчынскай зоне, знаходзілася санітарная частка. Там і працаваў статыстам-рэгістратарам Клаўдый Дуж-Душэўскі.

Быў гэта ціхі, сціплы і, як мне тады здавалася, старэнькі чалавек (яму было за 60, а мне — 25). У лагеры яго называлі айцец Клаўдыюш, таму што нечым ён быў падобны на святара.

Часам мы сустракаліся ў лагеры, па працы, але не маглі пагутарыць. Усё ж такі лагер ёсць лагер, і мы былі людзьмі падканвойнымі. Тым не менш, я ведала, што ў нас з ім аднолькавыя артыкулы «58 п.10» — антысавецкая прапаганда.

Але ж так сталася, што 25 сакавіка 1955 года айцец Клаўдыюш прыйшоў у маю «рэзідэнцыю» без канвоя. Яго прывяла ў Дом маці і дзіцяці, для праверкі дакументаў, начальніца ДМР доктар Юдзіта.

Вось тады мы і пазнаёміліся бліжэй. Яго твар быў такі радасны і светлы, з блакітных вачэй пад акулярамі так і сыпаліся праменьчыкі радасці!

Мне так хацелася размаўляць з гэтым чалавекам!

Айцец Клаўдыюш сказаў мне, што ён не святар, а палітык. Запытаўся, ці ведаю я, якое сёння свята. Я адказала, што ведаю — каталіцкае Звеставанне, і пачала, як вучаніца, расказваць, што ў гэты дзень архангел Гаўрыіл падаў вестку Дзеве Марыі, што ў яе народзіцца сын, яна ж усумнілася, бо ў яе не было мужа.

Дуж-Душэўскі запытаўся, адкуль я гэта ведаю, хіба я каталічка?

Я адказала, што вучыла Закон Божы, і хаця сама праваслаўная, але мой дзядуля па матчынай лініі быў католік, і мы святкуем падвойныя святы. Але тут Клаўдыюш спытаў, ці ведаю я, што гэта яшчэ і беларускае нацыянальнае свята: дзень абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе.

— А ў мяне заўтра дзень нараджэння, — сказаў ён. А сёння былі госці. Меў сустрэчу з дачкой. Вось, гэта вам, — і працягнуў мне шакаладку.

Я збянтэжылася:

— Ну што вы, гэта я павінна зрабіць вам падарунак...

Але тут з'явілася доктар Юдзіта. Мы пагарталі нейкія запісы ды перадалі Дуж-Душэўскаму карткі «Гісторыі хваробы», пасля чаго ён пайшоў.

Так скончылася наша першая сустрэча.

Праз некаторы час я зазірнула ў рэгістратуру санчасці, дзе Дуж-Душэўскі, як запраўскі пісар, запаўняў сваім прыгожым почыркам бланкі на «акціроўку».

Я не змагла доўга размаўляць, і таму паспяшалася ўручыць яму свой падарунак у адказ. Гэта быў уціральнік-ручнічок з вышытым крыжыкам узорам у выглядзе васількоў і шлячком чырвонага колеру. Клаўдыюш узрадаваўся, падзякаваў і пацалаваў мне руку.

Наступнага разу мы ўбачыліся амаль праз месяц, 1 мая 1955 года. Быў сонечны дзень, я сядзела каля сваёй бальніцы. Тут



К. Дуж-Душэўскі, студэнт Пецярбургскага горнага інстытута, 1912 г.

былі і дзве парадзіхі з дзеткамі на руках. Раптам убачыла знаёмую постаць з кіёчкам, якая ўпэўнена рухалася ад вахты — прахадной паміж мужчынскай і жаночай зонамі, у напрамку радзільнага дома.

У мяне сэрца закалацілася, не ведаю — ці ад страху, ці ад радасці.

Клаўдый Сцяпанавіч падышоў, па-джэнтэльменску пакланіўся. Пазабаўляў дзетак, перакінуўся парай слоў на летувіскай мове з матулямі. Пажадаў ім здароўя ды хутчэйшага вяртання дадому.

Поўдзень выдаўся спякотным, і сп. Клаўдыюш папрасіў выйсці ў цень, ды й матулям з дзеткамі не раіў доўга знаходзіцца на сонцы.

Мы ўвайшлі ў мой пакой. Яго вочы асвяціліся нейкім дзіўным бляскам:

— Ірэна, мы ўжо вольныя, прыйшлі паперы. Цуд! Хутка і вы і я будзем дома! Толькі маўчыце, нікому ні слова, а то мне за парушэнне лагернага рэжыма дадуць дадатковы тэрмін. Разумееце, я раскрываю вам вялікую тайну? Хутка лагер расфарміруюць. Мы будзем на волі, жывыя!..

Ён усё гаварыў і гаварыў, нібыта спяваў. А я, як зачараваная, слухала і не разумела: праўда гэта ці казка. Хоць і мала яго ведала, але ў гэты момант ён быў для мяне самым блізкім чалавекам.

Праз пару дзён пасля візіту Клаўдыя Сцяпанавіча прыйшоў пасыльны з вахты і сказаў, што мяне выклікае начальнік.

Я адразу ж пайшла. Сэрца калацілася і ў вушах шумела, але я супакойвала сябе: «Спакойна, ты так шмат перажыла, перацярпела, так што баяцца няма чаго».

Вось мяне павялі да самога начальніка лагера Хаменкі. Ён мне абвясціў, што прыйшлі дакументы на маё вызваленне, але ён асабіста просіць мяне застацца працаваць на два-тры месяцы. Ліквідуецца ДМР, і я буду вельмі патрэбна ў лагеры. Ён прапанаваў залічыць мяне ў штат вольнанаёмных і абяцаў выплочваць заробак «у лепшым выглядзе».

Я ледзьве не абамлела. Што рабіць? І дадому ой як хочацца, і грошай зарабіць было б нядрэнна. Стаўкі тут, у сістэме МУС, нашмат большыя, чым у цывільных. Праўда, начальнік папярэдзіў, што працэдура афармлення маіх дакументаў зацягнецца не менш як на два тыдні. Для выканання гэтых працэдураў давядзецца ехаць у Вільню.

Тады я пачала выкладаць свае меркаванні. Гаварыла пра тое, што больш як чатыры гады не была дома, не бачыла дачушку, якой ужо пяць гадоў і г.д.

Хаменка параіў: няхай сваякі прыедуць да вас. «Выдзелім пакой для спаткання за межамі зоны, у доме аховы. Падумайце, а заўтра дадзіце адказ».

Я ўзважвала ўсе «за» і «супраць». Чуткі пра тое, што нас, медыкаў, пераводзяць працаваць у сістэму МУС, ужо разнесліся па зоне. Мае калегі радаваліся таму, што будуць забяспечаны высокааплатнай працай. Я ж ніяк не магла зразумець, чаму яны цешацца?.. Хацелася пра ўсё расказаць айцу Клаўдыю, параіцца з ім, але спаткацца ў той дзень нам не ўдалося.

Толькі праз пару дзён, калі назбіраліся нейкія медыцынскія паперкі, я папрасіла дазволу прайсці ў санчасць. На той момант па лагеры ўжо разнеслася вестка аб маім вызваленні, і я лічылася, так бы мовіць, напалову вольным чалавекам.

Клаўдый Сцяпанавіч нічога не параіў. «Вырашай сама», і я дала згоду затрымацца ў лагеры. Адбылося гэта 16 траўня 1955 года.

Разам з Дуж-Душэўскім мы выходзілі на волю. Спаткаліся на вахце (на прахадной). Ад лагера да горада Шылутэ было кіламетраў пяць. Нам далі машыну — «Газік», каб даехаць да гарадскога аддзялення міліцыі і атрымаць пашпарты. У пашпартным стале я справілася даволі хутка. Ніякіх пытанняў да мяне не было, і я ніякіх прэтэнзій не мела. Тады я яшчэ не ведала, што ёсць пэўны шыфр, што на чалавеку і пасля вызвалення застаецца кляймо былога вязня. Адчула гэта толькі пасля.

А вось у Клаўдыя Сцяпанавіча Дуж-Душэўскага ў даведцы аб вызваленні ў графе «прозвішча» стаяла «Душаўскас», без прыстаўкі «Дуж», што азначала «Дужы». А звесткі з даведкі пераносіліся ў пашпарт. З такім напісаннем прозвішча Клаўдый Сцяпанавіч не пагадзіўся. З-за гэтага ўсчалася спрэчка. Хоць размаўлялі і па-літоўску, але я разумела сэнс гутаркі. Начальнік пашпартнага стала з нейкім сарказмам прамовіў:

— Які ж ты дужы? Можа, лепш напісаць «стары»?

Спадар Клаўдый, аднак, адстойваў «прыстаўку» да свайго прозвішча, але так нічога і не дамогся. З міліцыі ён выйшаў увесь знерваваны, яго літаральна трэсла. Каб супакоіцца, Дуж-Душэўскі запрапанаваў пайсці ў рэстаран — выпіць віна і перакусіць.

На жаль, рэстаран быў зачынены, да яго адкрыцця заставалася яшчэ цэлая гадзіна. Мы selі на лаўку, і айцец Клаўдыюш (як я яго ўжо прывыкла называць) пачаў гаварыць пра тыя праблемы, якія нас чакаюць: у асобных адзнаках пашпарта стаяць пэўныя зашыфраваныя лічбы. «Гэта тое, што табе, дарагая Ірэна, складзе праблемы. Але, можа, Бог абнясе. Мне ўжо ўсё роўна. Працы ў іх я і так не буду прасіць. А вось свой родавы герб пастараюся адрадзіць для нашчадкаў»...

Потым пачаў расказваць пра сваё жыццё. Гаварыў пра сваю працу ў Радзе БНР у маладыя гады. Расказаў, што некалі пісаў казкі для дзетак. Пра свае тры арышты і турэмныя тэрміны, здабытыя ў розныя часы ад розных рэжымаў. Першы тэрмін атрымаў ад летувісаў у 1923 годзе, другі ад немцаў — 1942-м; трэці — у 1947-м, за «антысавецкую прапаганду».

Так, у гутарцы, незаўважна праляцела гадзіна. Адчыніўся рэстаран, і кельнер папрасіў нас заходзіць. Праўда, у рэстаране мы не затрымаліся. Спадар Клаўдый спяшаўся на аўтобус, а мне трэба было вяртацца да нелюбімага лагера.

На развітанне выпілі трохі добрага віна, здаецца, «Вермута», закусілі і разышліся. <...>

# Яффская брама

## З падарожных нататкаў



Мікола ІЛЬЮЧЫК

Сёння для мяне асаблівы дзень.

Кожны дзень выключны, бо я на Святой Зямлі, але сённяшні самы-самы, бо я еду ў Іерусалім.

Еду без экскурсаводаў, нават без сяброў.

Прадстаўнікі турыстычнага бізнэсу шмат балбочуць, бывае, што маняць і раз-пораз нясуць поўную бязглуздзіцу.

Сябры ўвесь час апякаюць цябе, нібыта табе не паўвека, а ўсяго з дзясятак гадоў. Сябры імкнуцца паказаць табе свае ўлюбёныя месцы, падзяліцца ўласнымі ўражаннямі. Але табе ўжо хочацца індывідуальных эмоцый, бо ты тут не ўпершыню.

Ты ўжо сталы турыст, дарослы.

Ты парадніўся з гэтай краінай і залатым Іерусалімам.

Пройдзе нейкіх тры з паловаю гадзіны, і гэты горад зноў падбадзёрыць цябе словамі: «Блаславёны кожны, хто прыходзіць сюды». Яны ўсталяваныя на схіле гары і добра чытаюцца яшчэ здалёк.

Потым ты дасі нырца ў яго глыбіні, каб спазнаць нешта новае, каб адчуць штосьці такое, што кране сэрца і застанецца з табою назаўсёды.

Людзей няшмат, нутро агромністага аўтобуса прымае ў камфортныя абдоймы. Кандыцыянер стараецца на ўсе застаўкі, а звонку горача ўжо з раніцы.

— Мазган супер!

— Супер, — і я ўздымаю кулак з узнятым вялікім пальцам, пагаджаючыся з жанчынай, што хваліць кандыцыянер і месціцца злева ад мяне.

Дастаю ранішнюю газету, потым прагладаю паведамленні ў тэлефоне, кладу яго ў кішэню і зноў вяртаюся да газеты, што яшчэ пахне фарбамі.

Газета і цёмныя акуляры дазваляюць назіраць за жанчынай. У яе незвычайны твар. Таўстуха, крыху неахайная ў адзенні, твар не вельмі дагледжаны, але ў ёй ёсць нешта такое, што звяртае на сябе ўвагу. Досыць мужчынскага позірку, каб зразумець, што выглядае яна старэйшай, чым ёсць насамрэч.

З газеты даведаўся, што ўнутраныя праблемы ў гэтай краіне нікуды не зніклі, а звонку ёй зноў пагражаюць.

Бочным зрокам заўважаю, што мая спадарожніца таксама дастала газету і жменю рознакаляровых фламастараў. Яе «The Jerusalem Post» не выглядае свежай, і калі жанчына разгарнула яе, то я заўважыў, што амаль увесь тэкст на развароце пазначаны тымі самымі фламастарамі, што цяпер ляжалі на сядушцы побач з ёю. Цікава, што за артыкул, што выклікаў такую пільную ўвагу чытачкі? Магчыма, потым я змагу паглядзець фотаздымкі і з іх нешта зразумею.

У самога некалі была звычка крэмзаць пры чытанні, але ж ці так?!

Зноў чытаю.

Яна робіць тое самае. Яе газета, відаць, старая і не шамаціць старонкамі так, як мая. Жанчына шпарка гартае шматлікія старонкі і зноў вяртаецца да развароту. Дрыготкаю рукою бярэ фламастар, але кладзе яго на месца, мабыць, крэсліць ужо няма чаго. Яна нярвуецца і дастае з торбачкі, што вісіць на шыі, тэлефон. Апарат зусім стары, з маленькім чорна-белым экранам. Такімі даўно ніхто не карыстаецца. А ў яе, бач, захаваўся. Яна жвава націскае на пімпачкі і пачынае размову.

— Вітаю, дачушка! Як пачуваешся? Ці паснедала? Як твае справы? Ці зрабіла ўсё па вучобе? А якой на занятку? Што плануеш на гэты дзень?..

Я не паспяваў перакладаць, яна гаманіла хутка, ды і паліглотам я ніколі не быў. Зразумеў, маці тэлефануе дачцэ. Звычайная практыка, асаблівая ў Ізраілі. Я даў гэтаму працэсу сваю назву: «ранішні адзвон». Гэта калі людзі, нават не сваякі, а проста знаёмыя, тэлефануюць адно аднаму, каб даведацца пра здароўе, пра справы ці проста з ветлівасці.

Бывае яшчэ «адзвон вечаровы».

Неабыякавасць — добрая рыса. Яна яшчэ задавала нейкія пытанні: відаць, дачка адказвала сцісла, а можа, наагул не была шматслоўнаю.

Суразмоўцы развіталіся. Тэлефон знік у торбачцы, і зноў уся ўвага на газетным артыкуле, што на развароце «The Jerusalem Post». Праз імгненне — яшчэ адзін званок:

— Сыночак, прывітанне! Як ты? Што новага? А ці паснедаў ужо?..

Амаль тыя самыя пытанні і такія ж кароткія адказы.

Што тут дзіўнага, што маці едзе з аднаго горада ў другі і тэлефануе дзецям? Напэўна, гэта нармальная сітуацыя для будзь-якой краіны. І нічога дзіўнага ў тым, што яна размаўляе па-ангельску. Тут пачуеш розныя мовы, людзі з усяго свету едуць сюды, а некаторыя застаюцца назаўсёды.

Нічога дзіўнага, хоць з дзівосамі тут можна сустрэцца на кожным кроку.

Вось і сяброўка, што выпраўляла мяне на гэты рэйс, адзначала: ты сягоння едзеш з аднаго святога горада ў другі.

Але ж для мяне ўся гэтая зямля святая. Цяпер еду з Цфата ў Іерусалім, але ж сярод «святых» яшчэ ёсць Хеўрон і Тверыя, а чым горшыя Назарэт, Ако, Карміэль, Хайфа ці Наарыя?

Пакуль я разважаю пра святыя месцы і пра геаграфію краіны, пра тое, дзе я ўжо быў шмат разоў, а дзе толькі аднойчы, пра тое, дзе яшчэ варта пабываць, кабета зноў дастала тэлефон. Мяне здзівіла тая акалічнасць, што яна зноў набрала дачку, а неўзабаве і сына.

Як так можна? Ніякай самастойнасці дзецям! Гэта яўны перабор, нават калі ты такая тыповая, нават хрэстаматыйная габрэйская мамачка.

І тут я пачынаю разумець: і пытанні тыя самыя, і экран на тэлефоне не свеціцца ў час націскання на пімпачкі...

Я больш пільна ўглядаюся ў гэты твар, і мяне не ратуюць цёмныя акуляры.

— What's the matter? Is something wrong? (У чым справа? Штосьці не так?)

— That's all right. Sorry. (Усё добра. Прабачце), — запэўніваю я, бо сапраўды нічога не здарылася, але яе ўстрывожыў мой пільны позірк.

Намагаюся болей не глядзець на яе, бо разумею, што з псіхікаю ў яе нешта не так. Але ці мала на белым свеце людзей, у якіх ёсць нейкія адхіленні ад нормы. І хто мае права вызначаць тую норму? І якія жыццёвыя абставіны прыводзяць да пэўных хібаў у паводзінах?

Ці мала я сустракаў людзей, якія размаўляюць самі з сабою, ці хіба не бачыў тых, хто трымаў у руках кнігу, будучы цалкам непісьменным?

Палова шляху — яшчэ амаль дзве гадзіны — разважаць пра ейныя паводзіны, але ж я не псіхіятр і нават не псіхолаг. Навошта яно мне?

Раптам недзе ў задняй частцы аўтобуса пачуў размову на добра знаёмай мне мове. Вырашыў пайсці і запытацца, як мне з аўтавакзала дабрацца да Старога горада. Гэта мая асноўная мэта, ды і гатэль мой недзе побач.

— Увесь час па трамвайных рэйках, гэта вуліца Яфа, яна прывядзе вас акурат да Яфскай брамы Старога места. Дарогаю наведайце рынак Маханэ Егуда, там вельмі каларытна, не пашкадуеце, — зычлівыя маладзёны шчыра ўсміхаліся, мабыць, з той нагоды, што некаму дапамаглі, ці з таго, што сустрэлі суайчынніка.

— Дзякуй за падказку, — атрымаўшы патрэбную інфармацыю, вяртаюся на сваё месца.

Нечакана мой позірк затрымаўся на газетным аркушы з загалоўкам «Another terrorist attack in Israel (Чарговы тэракт у Ізраілі)». Некалькі фота, адзін фотаздымак шмат разоў любоўна абведзены рознакаляровымі фламастарамі. На ім дзеці — хлопчык і дзяўчынка; яны такія мілыя, шчыра ўсміхаюцца з газетнага развароту ўсім, хто глядзіць на іх.



Фота tepler.com

Я шакаваны ад пабачанага і ад уласных здагадак.

Ці магчыма такое?

Чаму такі жорсткі свет?

Чаму такі трагічны лёс у гэтай беднай жанчыны? Чаму столькі гора ёй адной? Як ёй усё гэта вытрываць?

Чаму гінуць такія маладыя і прыгожыя?

Чаму на гэтай зямлі, дзе ты амаль фізічна можаш адчуць прысутнасць Бога, адбываюцца такія жудасныя рэчы?

Што патрэбна для таго, каб гэта скончылася?

Калі перастануць гінуць мірныя людзі, калі заўчасная ліхая смерць не будзе забіраць дзяцей?

Ад шматлікіх пытанняў, ад пабачанага і перажытага зрабілася моташна. Глыток халоднай вады аказаўся дарэчы, балазе сябры паклапаціліся і паклалі некалькі пляшак у заплечнік, папярэдне ноч пратрымаўшы іх у лядоўні.

Я не стаў правяраць свае здагадкі. Хаця быў вольны час і было сеціва. Не стаў высвятляць, дзе, калі і пры якіх абставінах адбыўся гэты тэракт, калі загінулі двое з адной сям'і.

Я не стану нікому задаваць ніякіх пытанняў, каб нікому не вярэдзіць раны, мне не хочацца нікому рабіць балюча.

Тут людзі ўвесь час жывуць у небяспецы, тут заўсёды можа здарыцца нейкая неспадзяванка з рызыкаю для жыцця.

А мажліва, такім чынам проста выплёскваецца мая фантазія, што падмацаваная назіраннямі за гэтай няшчаснай хворай жанчынай?

Добра, каб было так, каб толькі фантазія і не болей. Але ж чамусьці прыйшла думка пра літасць Боскую для гэтай жанчыны. Яна назаўсёды засталася ў тых рэаліях, калі яе дзеці разам з ёю, няхай сабе і на адлегласці, але гэта не праблема, бо ёсць стары, няхай сабе і зламаны тэлефон. Яна засталася назаўсёды шчаслівай габрэйскай мамай, што можа ўвесь час клапаціцца пра сваіх сына і дачушку.

— Мілы, ты паснедаў?

Яна зноў размаўляе з дзецьмі, яна зноў задае ім звычайныя пытанні.

Напэўна, у тым месцы, дзе цяпер знаходзяцца іх неўміручыя душы, ім добра і яны па-свойму адтуль адказваюць сваёй матулі. А яна іх чуе і разумее як ніхто іншы.

Зашчымела ў грудзях. Але гэта пройдзе.

Пігулка не патрэбная, бо хутка, зусім хутка я ўдыхну на поўныя грудзі паветра Іерусаліма і пакрочу вуліцаю Яфа да Старога места.

Туды, дзе я зноў абавязкова адчую блізкасць Бога.

А ля Сцяны плачу ў сваіх малітвах абавязкова ўзгадаю сваю спадарожніцу з аўтобуса нумар 992 «Цфат — Іерусалім».



Фота tepler.com

# Юбілей Чынгіза Айтматава

95 гадоў таму — 12 снежня — нарадзіўся кіргізскі пісьменнік Чынгіз Айтматаў.

Уладальнік мноства званняў і прэмій СССР — уключаючы Ленінскую і тры Дзяржпрэміі, — ён здолеў знайсці свайго чытача і за мяжой.

Зрэшты, «знайсці» — нейкае недастатковае слова; яго кнігі пераклалі на 174 мовы, а агульны іх тыраж перавысіў 80 мільёнаў экзэмпляраў.

Больш за тое, паводле некаторых сведчанняў, Айтматаў быў неверагодна блізкі да таго, каб атрымаць Нобелеўскую прэмію.

Але чым яшчэ, акрамя фармальных заслугаў, цікавыя жыццё і творчасць Чынгіза Тарэкулавіча?

З задавальненнем прапануем наступныя 10 фактаў...



**1.** Чынгіз стаў адным з першых кіргізскіх дзяцей, якія наведвалі дзіцячы сад.

Там жа ён даў сваё першае інтэрв'ю: у 1934 годзе карэспандэнт газеты «Ленінчыў жаш» («Малады ленінец») пагутарыў з дзецьмі, у тым ліку і з Айтматавым. На пытанне аб тым, кім ён хоча стаць, будучы пісьменнік адказаў: шафёрам. У выніку артыкул так і назвалі: «Чынгіз хоча быць шафёрам».

**2.** Бацькі Чынгіза Айтматава актыўна ўдзельнічалі ў палітычным жыцці СССР: бацька, Тарэкул Айтматаў, быў сялянскім актывістам, а пазней і дзяржаўным дзеячам Кіргізскай ССР; маці, Нагіма Абдуваліева, татарка па нацыянальнасці, паспела пабыць вайсковай палітработніцай і грамадскай дзеячкай. У 1937 годзе бацьку Чынгіза арыштавалі, а ў 1938 годзе — расстралялі.

«Я з сям'і, якая трапіла пад каток сталінскіх рэпрэсій, — успамінаў пазней пісьменнік. — Калі бацьку арыштавалі, то ў школе мяне сталі лічыць сынам ворага народа».

**3.** Ужо ў 14 гадоў Айтматаў стаў сакратаром савета ў ауле: ішла Вялікая Айчынная вайна, і дарослыя мужчыны сышлі на фронт. Акрамя кіруючай пасады, Чынгізу ў тыя гады давялося асвоіць і мноства іншых, у тым ліку настаўніка і памочніка камбайнёра і трактарыста.

**4.** Як пісьменнік Чынгіз Айтматаў дэбютаваў у 1952 годзе з апавяданнем «Газетчик Дзюйо»; апавяданне было напісана на рускай мове, але пазней Айтматаў нямала пісаў і на кіргізскай — і (як і яго сябар Васіль Быкаў) сам сябе перакладаў.

**5.** Свой першы «ганарар» Айтматаў атрымаў менавіта як перакладчык — прынамсі, ёсць такая гісторыя. Але з літаратурай гэта аніяк не звязана: калі Чынгіз яшчэ быў маленькім, на па́шы Уу-Саз (Атрутнае балота) памёр дарагі дамскі жарабец. Расследаваць гэтую падзею прыехаў рускі спецыяліст, але ніхто з табуншчыкаў па-руску не гаварыў. У выніку пошукаў «дэтэктывы» адшукалі Чынгіза, і хлопчык пераклаў, што жарабец памёр ад атрутнай травы, якую мясцовая жывёла не есць. Табуншчыкам, такім чынам, удалося пазбегнуць сур'ёзных праблемаў. Яны зарэзалі ў гонар Чынгіза ягня і ўручылі яму ўстукан — костку з невялікай колькасцю мяса, якую ўручаюць гасцям перад асноўнай трапезай як знак павагі.

**6.** Айтматаў спрабаваў скрыжаваць быка і яка. Скончыўшы ў 1953 годзе Сельскагаспадарчы інстытут у Фрунзэ, пачатковец-пісьменнік уладкаваўся заатэхнікам у Навукова-даследчы інстытут жывёлагадоўлі. Там ён даведаўся, што ў Англіі на востраве Джэрсі разводзяць знакамітую пароду кароў, якія даюць шмат малака — і надумаў скрыжаваць іх з якамі, якія жывуць у высокіх гарах Цянь-Шаня. Айтматаў атрымаў дазвол інстытута і нават раздабыў быка пароды джэрсі, — але чым скончыўся эксперымент, на жаль, невядома.

**7.** Чынгіз Айтматаў вялікі перыяд жыцця прысвяціў дыпламатыі: узначальваў пасольства СССР (з 1992 года — пасольства Расіі) у Люксембургу, а пазней быў пасолам Кіргізіі ў краінах Бенілюкса.

У гэты перыяд жыцця з ім здарыўся адзін пацешны казус: на дыпламатычным прыёме падалі японскую страву, упрыгожаную кветкамі. Айтматаў не ведаў, што кветкі дэкаратыўныя, і з'еў іх...

«На вялізнай страве вельмі прыгожа была выкладзена экзатычная незразумелая ежа з кветкамі. Я вырашыў, што калі падалі да стала, значыць, усё — ядомае. І з'еў кветкі! Потым ужо даведаўся, што яны былі ўпрыгожаннем. Доўга сам з сябе смяяўся», — успамінаў пазней пісьменнік.

**8.** Айтматаў любіў машыны, але не ўмеў кіраваць імі — дарма што ў дзяцінстве хацеў стаць шафёрам. А вось на конях пісьменнік ездзіў упэўнена і часта сумаваў па верхавой яздзе.

Зрэшты, аўтамабілі Чынгіз Тарэкулавіч выбіраў што трэба: «Ягуар», на якім ён (з кіроўцам) калясіў па Еўропе, калі быў амбасадарам Кіргізіі, у 2015 годзе перадалі ў музей ягонага імя.

**9.** Чынгіз Айтматаў не захацеў станавіцца прэзідэнтам Кіргізіі. Прычым першым у гісторыі краіны: пасля распаду СССР была заснаваная пасада прэзідэнта, і некалькі чалавек, у тым ліку пісьменнік Казат Акматаў, хацелі было вылучыць Айтматава, — але той (як і Васіль Быкаў у той час) адмовіўся.

**10.** Айтматаў практычна не карыстаўся друкаваннай машынкай: пісьменнік аддаваў перавагу рукапісу і запэўніваў, што машынка «забівае» думку.

А яшчэ ў Чынгіза Тарэкулавіча была алергія на папяровы пыл — ад чаго ў яго чырванелі і свярбелі запясці.

Па чутках, алергія абудзілася на нярвовай глебе: пасля таго, як у Саюзе пісьменнікаў раскрытыкавалі аповесць Чынгіза Айтматава «Джамиля».

**Андрэй МЯГКОЎ**

# Прэмія імя Сыманэнкі

Конкурсная камісія па прысуджэнні Усеўкраінскай літаратурнай прэміі імя Васыля Сыманэнкі (пісьменніка-шасцідзясятніка, які рана памёр) разгледзела творы прэтэндэнтаў на прэмію 2023 года і вырашыла: у намінацыі «За лепшы першы зборнік паэзіі» прэмія не прысуджаецца ў сувязі з адносна нізкім мастацкім узроўнем прадстаўленых на конкурс твораў.

Лаўрэатамі прэміі ў намінацыі «За лепшы твор» прызнаны Аляксандр Казінец (Кіеў) за зборнік паэзіі і Ганна Крэўская (Марына Кананэнка) (Лубны, Палтаўская вобласць) за кнігу прозы «Прядиво роду».

# Спіс лепшых кніг 2023-а паводле «New York Times»

Аўтарытэтнае выданне «The New York Times» апублікавала спіс 10 лепшых кніг 2023 года. У спісе пяць мастацкіх і пяць навукова-папулярных выданняў, якія выйшлі сёлета.

Вось тыя лепшыя кнігі 2023 года:

1. The Bee Sting — Пол Мюрэй. Трагікамедыя пра багаты ірландскі клан Барнс, які змагаецца з наступствамі фінансавага крызісу 2008 года і ўласнымі дэманамі. Кніга паказвае любоў і ўстойлівасць адной сям'і, калі свет вакол іх бурыцца.

2. Chain-Gang All-Stars — Квамэ Аджэй-Брэнья. Антыўтапічная сатыра, у якой асуджаныя на смерць зняволеныя змагаюцца па тэлебачанні за шанец на свабоду. «Градус» павышае каханне паміж двума заклятымі супернікамі, якія вымушаныя выбіраць паміж сабой і свабодай.

3. На ўсход — Майліс дэ Кэрангал. Кароткі лірычны раман распавядае пра маладога рускага прызыўніка, які едзе ў Транссібірскім цягніку, напоўненым іншымі салдатамі. Галоўны герой вырашае дэзерціраваць і аб'ядноўваецца з грамадзянскай пасажыркай, француженкай.

4. Махлярства — Зэдзі Сміт. У аснову рамана пакладзены вядомы крымінальны працэс XIX ст., у якім падсуднага абвінавачвалі ў выдаванні за шляхціца. Аднак, нягледзячы на гістарычную абстаноўку, галоўная тэма рамана — сучасны палітычны папулізм.

5. Норт Вудс — Дэніэл Мэйсан. Гэты раман пераносіць чытачоў у дом у дзікай мясцовасці Масачусэтса і пакідае іх там на 300 гадоў. Жыцці і смерці герояў кнігі час ад часу перасякаюцца і накладваюцца адна на адну, нібы рознакаляровыя часцінкі ў калейдаскопе.

6. Лепшыя розумы — Джонатан Розэн. Скрупулёзнае аднаўленне сяброўства аўтара з Майклам Лодарам, шызафрэнікам, выпускніком юрыдычнага факультэта Ельскага ўніверсітэта, які забіў сваю цяжарную дзяўчыну кухонным нажом. Аўтар даследуе тонкую грань паміж геніем і вар'яцтвам, складаныя палітычныя праблемы і этычныя абавязкі грамадства.

7. Знізу ўверх і д'ябал смяецца — Кэры Хоўлі. Гісторыя пра стан нацыянальнай бяспекі ЗША і людзей, якія ў гэтым задзейнічаны. У цэнтры сюжэту — супрацоўнік Агенцтва нацыянальнай бяспекі, асуджаны на 63 месяцы зняволення за разгалошванне сакрэтнай інфармацыі.

8. Пажарнае надвор'е — Джон Вайлант. Аўтар распавядае пра ход падзей у 2016 годзе, калі катастрафічны лясны пажар ахапілі ўвесь муніцыпалітэт Форт-Мак-Мурэй у канадскай правінцыі Альбэрта. Галоўны герой кнігі — сам агонь, непакорлівы і жахлівы элемент, які становіцца больш ненасытным з глабальнымі зменамі клімату.

9. Гаспадар-раб, муж-жонка — Іліён Ву. Раман апавядае пра мужа і жонку, Элен і Уільям Крафтс, якія ўцякалі з рабаўладальніцкай Джорджыі на поўнач ЗША ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Элен выдавала сябе за хворага белага плантатара, а Уільям за яго рабыню. Уцёкі гэтай пары атрымалі шырокую агалоску, што зрабіла іх аднымі з самых вядомых беглых рабоў у гісторыі Злучаных Штатаў.

10. Некаторыя людзі маюць патрэбу ў забойстве — Патрыцыя Евангеліста. Кніга ў асноўным ахоплівае перыяд паміж 2016 і 2022 гадамі, калі тагачасны прэзідэнт Філіпін Радрыга Дутэртэ вёў кампанію масавых пазасудовых забойстваў нібыта для навядзення парадку ў краіне. Распавядаецца не толькі пра жахі гэтага перыяду, але і даследуюцца прычыны, па якіх Дутэртэ змог прыйсці да ўлады і рэалізаваць сваю жудасную палітыку.

# Кніга за 55 тысяч фунтаў стэрлінгаў

Першае выданне кнігі «Гары Потэр і філасофскі камень» было прададзена больш чым за 55 000 англійскіх фунтаў стэрлінгаў на аўкцыёне «Hansons».

Уладальніца кнігі выпадкова знайшла яе ў кошыку кнігарні ў Хайлэндзе (Шатландыя) у канцы 1990-х падчас адпачынку са сваёй сям'ёй.

Першае выданне кнігі Джоан Роўлінг пра хлопчыка-чараўніка паступіла ў продаж у 1997 годзе.

Знойдзеная кніга — адзін з першых 200 асобнікаў. У той час яго прадавалі за 10 фунтаў.

Кніжны эксперт Джым Спэнсэр адзначыў, што так прадаць кнігу — выдатны вынік. «Гэта было сапраўдны першае выданне і фантастычна добра захаваны ўзор», — сказаў ён.

Шатландка, якая набыла кнігу, сказала, што купіла выданне таму, што напярэдадні прачытала інтэрв'ю з тады яшчэ малавядомай Роўлінг. Купіўшы кнігу, жанчына захоўвала яе дома ў шафе пад лесвіцай.

Асобнікі першага выдання «Гары Потэра» — самыя рэдкія і найкаштоўныя для калекцыянераў гэтай кнігі.

Кнігі пра Гары Потэра з'яўляюцца аднымі з самых прадаваных з усіх часоў: больш за 600 мільёнаў асобнікаў прададзеныя па ўсім свеце.

# Новая п'еса С. Алешка на вершы С. Жадана

Заснавальніца і кіраўнік харкаўскага тэатра «Арабескі» Святлана Алешка, якая цяпер жыве і працуе ў Польшчы, паставіць спектакль пра тэатр «Бярэзыль». Тэкст адмыслова напісаў Сяргей Жадан. Пра гэта рэжысёрка распавяла ў эфіры радыё «Накипило».



Святлана Алешка

Цяпер С. Алешка працуе ў Польскім тэатры імя Арнольда Шыфмана ў Варшаве. Праца над пастаноўкай пачалася ў верасні 2022 года. Рабочая назва спектакля — «Харкаў. Харкаў». Гэта мюзікл. Тэкст да спектакля — рыфмаваныя вершы — С. Жадан напісаў па просьбе рэжысёркі.

«Гэта сапраўды вельмі харкаўская гісторыя пра тое, як тэатр "Бярэзыль" пераязджае ў Харкаў з Кіева. І што з ім потым адбываецца. Жадан прытрымліваецца гістарычнай праўды, але мы вырашылі, што хопіць забіваць нашых артыстаў, таму пакінулі Курбаса жыць і далі яму "Оскар"», — сказала Святлана Алешка. Рэжысёрка дадала, што марыць пра перамогу, вяртанне на радзіму і развіццё ўкраінскага тэатра.

На сёння ў Харкаве прыпыненая праца ўсіх тэатраў...

# Памыліцца ў слове літаратура...

Зрабіць памылку ў ім можа... і Нобелеўскі лаўрэат па літаратуры.

Як, да прыкладу, пісьменнік Юн Фасэ, які з памылкай напісаў слова «літаратура». Аб тым паведаміла газета «Verdens gang».

Адзначаецца, што пісьменнік допусціў памылку падчас адной з «нобелеўскіх» акцый. Падпісваючы крэсла ў рэстаране Нобелеўскага музея, Фасэ напісаў у слове «litteratur» адно t замест падвоенага.

Сам Фасэ назваў сваю памылку «чыстай апіскай». «Вядома ж, я ведаю, як пішацца «літаратура» па-нарвежску, магчыма, крыху збіла з панталыку ангельская арфаграфія. Але і з гэтым я цалкам змагу жыць», — заявіў Фасэ.

Юн Фасэ стаў лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па літаратуры ў 2023 годзе. Узнагарода была прысуджана яму за «наватарскія п'есы і прозу, якія дазваляюць выказаць невытлумачальнае».

Літаратурная Беларусь
Адрас электроннай пошты: **litaraturnaja.bielarus@gmail.com**
З новымі электроннымі нумарамі «Літаратурнай Беларусі», а таксама з яе мінулагоднімі выданнямі можна пазнаёміцца на інтэрнэтрэсурсах.